



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

16 красавіка 2021 года №16 (1355)

18+




## На Вілейшчыне пачалася масавая вакцынацыя супраць каронавіруса

старонка 2

# Як каронавірус адбіўся на турызме

**Найбуйнейшае балота Беларусі Ельня ў Мёрскім раёне ў 2020 годзе прыцягнула асабліва вялікую колькасць турыстаў. З-за закрытых межаў многія падарожнічалі па сваёй краіне.**

старонкі 20-21

Фота Настассі УТКІНАЙ.

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## У райвыканкаме – новыя кіраўнікі аддзелаў

**АШМЯНЫ**

Пасаду начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне заняла **Ірына Губарова**. Яна нарадзілася ў Ашмянах. Скончыла мясцовы сельскагаспадарчы тэхнікум, а пасля БДЭУ. Працавала бухгалтарам у калгасе, намеснікам галоўнага бухгалтара па пазабюджэтнай дзейнасці і галоўным бухгалтарам у Ашмянскім аграрна-эканамічным каледжы. Затым працавала ў аддзеле бухгалтарскага ўліку і кантролю на мытні, пасля – у Ашмянскай ЖКГ. Ад 2017 года – намеснікам начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Ашмянскага райвыканкама.

Пасаду начальніка ўпраўлення архітэктуры, будаўніцтва і ЖКГ заняў **Яўген Гаўрыс**. Гаўрыс нарадзіўся 26 студзеня 1988 года ў Ашмянах. У 2008 годзе скончыў Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж, у 2015 годзе – Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт, у 2019 – Акадэмію ўпраўлення пры прэзідэнце. Ад 2008 года працуе ў Ашмянскім раённым унітарным прадпрыемстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі: спачатку інжынерам-праграмістам, затым – начальнікам абаненцкага аддзела. Ад 2018 года быў намеснікам дырэктара па ідэалагічнай рабоце прадпрыемства.

**Паводле osh.by.**

## Зладзяць танцавальны марафон

**ВІЛЕЙКА**

Марафон «Час танцаваць» пройдзе 16 і 17 красавіка ў Палацы культуры, паведамляюць ва ўстанове.

Мерапрыемства ладзяць, каб падтрымаць танцавальныя калектывы Вілейшчыны, стварыць умовы для самарэалізацыі дзяцей і моладзі, спрыяць сямейнаму адпачынку.

Першы дзень мерапрыемства – 16 красавіка. Ад 18:00 пачнуць выступаць калектывы «Рэверанс» дзіцячай школы мастацтваў, «Фіеста» – узоры ансамбль мажарэтак гэтай жа ўстановы, «Авангард» СШ №3, «Новыя гарызонты» гімназіі №1 «Логас», «Карагод» гімназіі №2, «Рытмікс» пачатковай школы №6.

17 красавіка ад 17:00 сваё харэаграфічныя здольнасці пакажуць калектывы «Аквамарын», «Дэнс бэнд», «Фанта», «Пазітыў», «Талісман» – усе СШ №5, «Фарсаж» пачатковай школы №6, і яшчэ адзін «Фарсаж» – ад Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адвакатаў пазбавілі ліцэнзіі

**ВІЛЕЙКА**

За апошнія месяцы Міністэрства юстыцыі пазбавіла ліцэнзіі шэраг адвакатаў.

Сярод іх двое вілейскіх – **Андрэй Барташэвіч** і **Алена Шынкарэвіч**. Андрэй Барташэвіч абодва разы абараняў у судах вілейчанку, педагога і актывістку **Вольгу Шостак**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі плануюць правесці ў чэрвені

**МАЛАДЗЕЧНА**

Папярэднія даты – 11-12 чэрвеня, паведамілі ў інфармацыйным аддзеле Палаца культуры.

Нагадаем, што ўпершыню фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне прайшоў у 1993 годзе. Цяжкасці арганізацыі першага і наступных фестываляў ляглі на плечы тагачаснага старшыні Маладзечанскага гарвыканкама **Генадзя Карпенкі**. Ён далучыў да свята **Міхаіла Фінберга**, падумаў аб падарунках пераможцам не з казны горада, а за кошт добраахвотных ахвяраванняў бізнесменаў.

Мэтай правядзення фестывалю было далучэнне да беларускай музыкі, паэзіі, мовы, папулярызацыя творчасці сучасных паэтаў і кампазітараў, пошук таленавітых выканаўцаў і пашырэнне творчых кантактаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За год насельніцтва краіны зменшылася на 60 тысяч чалавек

На пачатак гэтага года ў Беларусі жыло каля 9,35 мільёна чалавек, што прыкладна на 60,6 тысячы менш, чым годам раней.

На пачатак 2021 года ў краіне жыло 9 349 645 чалавек. Годам раней было 9 410 259, на пачатак 2019-га – 9 429 257.

Гарадское насельніцтва Беларусі на пачатак 2019 года складала 7 291 709 чалавек, 2020-га – 7 303 905, бягучага – 7 280 320.

**Паводле Белстата.**




Фота ria.ru.

Ахвотных вілейчукоў вакцынуюць прэпаратам «Спутник V».

# Пачалася масавая вакцынацыя ад каронавіруса

## Глядзіце, куды звяртацца ахвотным

**ВІЛЕЙКА**

**Ад 13 красавіка на Вілейшчыне пачалі масавую вакцынацыю супраць COVID-19. Інфармацыю пацвердзілі ў адміністрацыі Вілейскай ЦРБ.**

Каб зрабіць прышчэпку, трэба звярнуцца ў акно рэгістратуры паліклінікі ад 8:00 да 17:00 і атрымаць сваю амбулаторную карту. Пасля вас накіруюць у працэдурны кабінет, які працуе ад 8:00 да 17:30.

Вакцынаваць будуць расійскім прэпаратам «Спутник V» у плячо ўнутрымышачна.

**Вакцына захоўваецца ў замарожаным выглядзе пры тэмпературы мінус 18. Пасля размарожвання ёй можна карыстацца не больш за паўгадзіны.**

Перад вакцынацыяй дактары і медсёстры, якія робяць прышчэпкі, праходзілі вучобу.

Як расказалі вілейскія медыкі «Рэгіянальнай газеце», рабіць прышчэпку можна людзям ад 18 год. Нельга – цяжарным, жанчынам, якія кормяць дзяцей грудным малаком, людзям, якія маюць цяжкую алергію, хварэюць на вострыя рэспіраторныя інфекцыі, тым, у каго абвастрыліся хранічныя захворванні.

**Спачатку ўводзіцца першы кампанент вакцыны. Праз тры тыдні, калі ў чалавека няма ніякіх ускладненняў, уводзяць другі.**

Нагадаем, што вакцынацыя людзей, якія маюць высокую рызыку заразіцца, пачалася на Вілейшчыне ў студзені. Спачатку вакцынавалі медыкаў, пасля – педагогаў.

Калі маеце пытанні па вакцынацыі, звяртайцеся па тэлефоне (8 01771) 5-66-35.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дайджэст: Памёр прынц Філіп, каронавіруса ў Беларусі стала больш

**Прапануем прыгадаць гучныя падзеі апошняга тыдня ў Беларусі і свеце.**

### Мінздароўя канстатуе паступовы рост захворванняў на каронавірус

Спецыялісты ў рэгіёнах і Мінску канстатуюць рост захворванняў на кавід, у тым ліку на пнеўманіі каронавіруснай этыялогіі цяжкага працякання. Медыкі ўзмоцняць кантроль за выкананнем супрацьэпідэміялагічных мерапрыемстваў. Ігнараваць рэкамендацыі дактароў па захаванні масачнага рэжыму і фізічнага дыстанцыявання – не варта.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

### Верагодна, што да канца красавіка падаражэе алей

Рост сусветных цэн на алей, які ў Беларусі належыць да тавараў крытычнага імпарту, прывёў да значнага павелічэння кантрактных цэн у сакавіку. Пры гэтым цэны на насенне сланечніку за сакавік выраслі на 16,7 працэнта. Каб забяспечыць насельніцтва алеем у поўным аб'ёме, Камісія па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь ўзгадніла павышэнне цэн на алей (акрамя аліўкавага) юрыдычным асобам усіх формаў уласнасці і ІП, якія прывозяць гэты прадукт у Беларусь або прадаюць яго тут, у памеры, які не перавышае 15 працэнтаў цаны на 28 лютага. Цана можа павысіцца ўжо да 30 красавіка бягучага года.

**Паводле МАРГ.**

### Памёр саліст «Песняроў» Леанід Барткевіч

Яго не стала 13 красавіка ва ўзросце 71 год. Ад 1970 года ўвайшоў у склад «Песняроў». У 1991 годзе разам з жонкай і сынам эміграваў у ЗША, але ў 2000 годзе вярнуўся ў Беларусь і зноў некаторы час працаваў у «Песнярах». Пасля смерці Мулявіна Барткевіч арганізаваў у Расіі музычны калектыў з назвай «Ансамбль Песняры», зарэгістраваўшы аднайменную гандлёвую марку.

**Паводле «Нашай Нівы».**

### Памёр муж каралевы Вялікабрытаніі прынц Філіп

9 красавіка памёр муж каралевы Лізаветы ІІ прынц Філіп. 10 чэрвеня яму споўнілася б сто гадоў. Апошнія месяцы ён часта хварэў і быў у шпіталі. Прынц Філіп быў унукам караля Грэцыі Георга І і малодшым братам караля Канстанціна І. З нараджэння насіў тытул прынца грэчаскага і дацкага. Удзельнічаў у Другой сусветнай вайне, быў марскім афіцэрам. З будучай каралевай Брытаніі Лізаветай ІІ Філіп ажаніўся ў 1947 годзе, яны пражылі ў шлюбе 73 гады.

**Паводле royal.uk.**




Маладзечанскія спартыўныя школы аднымі з першых у краіне перавядуць на нарматыўнае фінансаванне.

# Маладзечанскія дзіцячыя спартыўныя школы ўдзельнічаюць у пілотным праекце

**У чатырох раёнах Беларусі пачаўся пілотны праект па апрабацыі нарматыўнага фінансавання спецыялізаваных дзіцячых спартыўных устаноў. У ім паўдзельнічаюць і маладзечанскія ўстановы.**

### Сутнасць праекта

7 красавіка Савет Міністраў апублікаваў пастанову аб рэалізацыі пілотнага праекта па апрабацыі нарматыўнага фінансавання спецыялізаваных дзіцячых спартыўных устаноў.

**Нарматыўнае фінансаванне –** гэта фінансаванне пэўных бюджэтных (дзяржаўных) устаноў з разлікам на колькасць чалавек, якія вучацца альбо працуюць у іх.

У пілотнай праграме ўдзельнічаюць маладзечанскія ДЮСШ №1, ДЮШАР №2, ДЮСШ №3, ДЮСШ №4, Мінская абласная комплексная ДЮСШ «Алімпік-2011».

Згодна з пастановай Савета Міністраў, рэалізацыя праекта пройдзе на працягу года: ад 1 студзеня да 31 снежня 2021 года. Акрамя маладзечанскіх дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ у праекце возьмуць удзел установы Веткаўскага, Кобрынскага і Лагойскага раёнаў.

Аб'ём бюджэтных сродкаў на рэалізацыю пілотнага праекта разлічваецца з двух крытэрыяў:

- базавыя нарматывы бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на спартыўную падрыхтоўку аднаго спартсмена-навучэнца па віду спорту;
- паказальнікі колькасці спартсменаў-навучэнцаў.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў могуць павялічваць аб'ём бюджэтных сродкаў, якія прадугледжаны на рэалізацыю праекта пры наяўнасці крыніц фінансавання.

Для кожнага віду спорту разлічваюцца розныя базавыя нарматывы бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на спартыўную падрыхтоўку аднаго спартсмена. У праекце закладзеныя нарматывы па 22 відах спорту. Нарматывы ў відах спорту дзеляцца на нарматывы для груп пачатковай падрыхтоўкі і вучэбна-трэніровачных груп.

Напрыклад, самая малая колькасць значэння базавага нарматыву для груп пачатковай падрыхтоўкі – па баскетболе: усяго **202,34** рубля. А самая вялікая для груп пачатковай падрыхтоўкі – у біятлоне: **877,05** рубля. У вучэбна-трэніровачных групах самая малая колькасць базавага нарматыву – у футболе: **854,32** рубля. Самая вялікая – у біятлоне: **2084,94** рубля.

### Нарматыўнае фінансаванне ў беларускай адукацыі

Ад 1 студзеня 2019 года ўсе беларускія школы з агульнай сярэдняй адукацыяй перайшлі з каштарыснага на нарматыўнае фінансаванне. Раней школа атрымлівала пэўную суму з бюджэту на год. Памер гэтай сумы вызначаўся з яе выдаткаў з мінулага года з улікам індэксацыі. Пасля ўвядзення нарматыўнага фінансавання школа атрымлівае грошы з разліку на аднаго вучня. Значыць, чым больш вучняў у школе, тым больш у школы грошай.

Міністэрства адукацыі чатыры гады запар рабіла тэставыя праекты ў розных рэгіёнах Беларусі, каб пасля перавесці агульнаадукацыйныя школы на нарматыўнае фінансаванне. У базавы нарматыў увайшлі аплата працы настаўнікаў і работнікаў школ і ўнёскі ў ФСАН, выдаткі на забеспячэнне адукацыйнай дзейнасці.

Чаму перайшлі на нарматыўнае фінансаванне? Міністэрства адукацыі сцвярджае, што галоўны пасыл – гэта празрыстае і справядлівае размеркаванне сродкаў паміж школамі. На пачатку 2010-х Міністэрства фінансаў прапаноўвала пераход на нарматыўнае фінансаванне з мэтай эканоміі сродкаў і магчымасці паднясць заробак настаўнікам.

**Правядзенне пілотнага праекта ў спецыялізаваных вучэбна-спартыўных школах – гэта працяг кампаніі па ўвядзенні нарматыўнага фінансавання ў адукацыйнай сістэме Беларусі.**

Вядома, што гэта першая спроба ўвесці такі від фінансавання ў дзіцяча-юнацкіх спартыўных школах. Міністэрства спорту будзе даваць справаздачу па выніках пілотнага праекта толькі праз год, у красавіку 2022 года.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**28**

столькі прафесійных тэатраў працавала ў Беларусі ў 2020 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.04 | 15.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.6676 | **2.6145** |
| **Еўра** | 3.1684 | **3.1245** |
| **Злоты, 10** | 6.9262 | **6.8568** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.4348 | **3.4537** |
| **Грыўня, 100** | 9.5536 | **9.3601** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **8.04** | **15.04** |
| **Еўра** | 3.1000/3.1800 | **3.0900/3.1700** |
| **Долар ЗША** | 2.6200/2.6850 | **2.5900/2.6600** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **7.04** | **14.04** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 23,99 | **22,90** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 4,35 | **4,25** |
| **Сасіскі, 1 кг** | 7,76 | **7,87** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 8,50 | **9,00** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 4,90 | **5,00** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 5,20 | **4,50** |
| **Селядзец, 1 кг** | 5,20 | **6,50** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 18,90 | **18,90** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 2,30 | **2,30** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 2,30 | **2,40** |
| **Алей, 1 л** | 4,00 | **4,00** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,20 | **2,40** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,70 | **1,70** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 2,00 | **2,00** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 2,60 | **2,60** |
| **Агуркі, 1 кг** | 4,80 | **2,50** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 5,90 | **5,90** |
| **Бульба, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Буракі, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Капуста маладая, 1 кг** | 3,50 | **3,30** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,50 | **2,50** |
| **Морква, 1 кг** | 1,30 | **1,50** |
| **Памідоры, 1 кг** | 3,90 | **4,80** |
| **Перац, 1 кг** | 7,50 | **6,90** |
| **Радыс, 1 кг** | 7,00 | **5,90** |
| **Салата, пучок** | 0,75 | **0,75** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Цыбуля-сявок, 1 кг** | 6,00 | **7,00** |
| **Часнок, 1 кг** | 6,50 | **6,50** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 6,50 | **6,50** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Бананы, 1 кг** | 3,70 | **3,90** |
| **Вінаград, 1 кг** | 5,50 | **6,90** |
| **Грушы, 1 кг** | 2,90 | **4,80** |
| **Клубніцы, 1 кг** | – | **17,00** |
| **Лімон, 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,70 | **1,70** |
| **Масла, 1 кг** | 18,00 | **18,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Сыр, 1 кг** | 14,00 | **14,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 8,00 | **8,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 4,00 | **4,00** |

## У мужчыны канфіскавалі паўкілаграма псіхатропнага рэчыва

МАЛАДЗЕЧНА

Пачалі крымінальную справу.

На ўездзе ў Маладзечна вечарам 4 красавіка міліцыянеры затрымалі двух жыхароў горада 26 і 30 гадоў. Пры аглядзе аўтамабіля «Пежо», які належыць аднаму з братоў, канфіскавалі амаль 500 грамаў асабліва небяспечнага псіхатропнага рэчыва. Па месцы жыхарства мужчыны знайшлі і забралі двое электронных вагаў, скруткі ізастужкі, пакуначкі, гумовыя пальчаткі.

Паводле папярэдняй інфармацыі, 26-гадовы маладзечанец ад лютага працаваў на інтэрнэт-краму па рэалізацыі забароненых рэчываў. Ён звязваўся з прадстаўніком крамы з дапамогай электронных паведамленняў, забіраў аптовыя закладкі, фасаваў у пакункі, пасля чаго раскладваў іх ва ўмоўленыя месцы.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Работніца салона сувязі афармляла на кліентаў сім-карты. А тыя і не ведалі

МАЛАДЗЕЧНА

У міліцыю па дапамогу звярнулася 48-гадовая жыхарка Маладзечна. Жанчына распавяла, што з яе патрабуць пагасіць запазычанасць за паслугі сотавай сувязі па абаненцкіх нумары, які яна не афармляла на сваё імя. Па дадзеным факце міліцыянеры пачалі праверку.

Высветлілі, што заяўніца раней звярталася ў адзін з дылерскіх салонаў сувязі горада, каб памяняць сім-карту і ўдакладніць некаторую інфармацыю, бо атрымала новы пашпарт. Анкетныя дадзеныя кліенткі ўнеслі ў базу дадзеных уладальнікаў сім-карт. Як правіла, доступ да персанальных звестак маюць работнікі мабільнага салона.

У спецыялістаў атрымалася ўстанавіць, што прадавец салона, 25-гадовая маладзечанка, скарысталася чужымі пашпартнымі звесткамі і ад імя мабільнага аператара афармляла на жанчыну без яе ведама сім-карту. Як высветлілася ў далейшым, падазраваная афармляла карты і на іншых кліентаў, а тыя нават не ведалі пра гэта.

Паводле папярэдняй інфармацыі, ад дзеянняў работніцы салона пацярпела каля дзесяці кліентаў. Пры гэтым на кожным з іх было адразу па некалькі кантактных сім-карт.

Па словах фігуранткі, махлярскую схему яна наладзіла, каб атрымаць дадатковы даход. Меркавала, чым больш падлучаных абанентаў, тым вышэй будзе яе заробак.

Цяпер фігурантка ўжо не працуе ў дылерскім салоне. Дзеянні падазраванай кваліфікаваныя як службовы падлог. Пачалі крымінальную справу. Санкцыя артыкула прадугледжвае да двух гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Мужчына заблукаў у лесе і трапіў з Літвы ў Беларусь

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

Беларускія памежнікі дапамаглі літоўцу вярнуцца дадому.

– Раніцай 11 красавіка ў Ашмянскім раёне смаргонскія памежнікі, патрулюючы ўчастак дзяржмяжы, убачылі сталага мужчыну. Ён быў вельмі стомлены, не мог патлумачыць мэту і месца свайго знаходжання, – расказалі спецыялісты Дзержпагранкамітэта.

Памежнікі высветлілі: гэта быў 82-гадовы грамадзянін Літвы, які жыве ў вёсцы Янкунай Шальчынінкайскага раёна недалёка ад мяжы з Беларуссю. У сілу сталага ўзросту іншаземец не зарыентаваўся на мясцовасці і трапіў на тэрыторыю Беларусі.

Пажылому чалавеку аказалі першую дапамогу. Затым ва ўстаноўленым парадку ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам мужчыну перадалі літоўскім памежнікам.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**

## Матацыкліст-бяспраўнік трапіў у рэанімацыю пасля ДТЗ

ВАЛОЖЫН

11 красавіка на дарозе Лужаны-Сугвазды-Дубоўцы адбылося ДТЗ з удзелам матацыкла.

45-гадовы жыхар Мінска каля 21 гадзіны ехаў па дарозе ў Валожынскім раёне ў кірунку Дубоўцаў. Мінчук не меў пасведчання кіроўцы матацыкла. Ён не ўлічыў дарожныя ўмовы, надвор'е, асаблівасці і стан матацыкла. Таму яго занесла ў кювет, дзе кіроўца разам з матацыклам перакуліўся.

Матацыкліст атрымаў цялесныя пашкоджанні. Яго даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ.

**Паводле psl.by.**




Фота МНС.

**Вадалазы пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада з задачай справіліся.**

# Судна вагой 35 тон паднялі з вадаёма ў Ізабеліне

## А глыбіня тут восем метраў

**На мінулым тыдні вадалазы пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскай вобласці правялі складаныя падводна-тэхнічныя работы на вадаёме ў вёсцы Ізабеліна Маладзечанскага раёна. Ім неабходна было дастаць прыладу для здабычы пяску, якая апынулася пад вадой, – земснарад вагой 35 тон.**

МАЛАДЗЕЧНА

Работнікі вадалазна-выратавальнай службы атрада падрабязна вывучылі ўстройства судна, размяшчэнне вузлоў і агрэгатаў. Далей распрацавалі план дзеянняў практычнай часткі.

Першым этапам стала абследаванне судна пад вадой. Перш за ўсё, была забяспечаная ўстойлівасць земснарада для бяспечнага правядзення работ.

Асноўнай часткай дзейнасці стала герметызацыя адсекаў, якія ў далейшым былі запоўнены паветрам для надання судну станоўчай плывучасці. Для гэтага праводзілася мадэрнізацыя і герметызацыя пантонаў патанулага земснарада. Дзякуючы гэтаму судна стала лягчэйшым, прыўзнялося з дна. Дасталі земснарад на сушу з дапамогай кранаў, бульдозераў і экскаватараў.

Такі від працы вадалазы пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада выконвалі ўпершыню і з задачай справіліся.

**Паводле МНС.**

## Вяскоўцы палілі сухую траву, а згарэла два хлявы

ВІЛЕЙКА

Пра здарэнне расказала старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Дыяна Жалязняк**.

Пажар здарыўся 12 красавіка ў вёсцы Камарышкі. Вяскоўцы палілі сухую траву, а агонь перакінуўся на два хлявы, якія стаялі недалёка. Выратавальнікам пра пажар паведамілі ў 13:00.

Калі спецыялісты прыехалі на месца, гаспадарчыя пабудовы гарэлі адкрытым полымем. У выніку адзін хлеў згарэў цалкам. Другі паспелі патушыць: агонь часткова пашкодзіў дах і сцены. Пацярпелых на пажары няма. Мяркуюць, што неасцярожнае абыходжанне з агнём пры спальванні сухой расліннасці стала прычынай здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Спынілі аўтамабіль, які вёз 50 літраў самагону

МЯДЗЕЛ

10 красавіка вечарам у вёсцы Астраўляны міліцыянеры спынілі аўтамабіль.

За рулём быў 22-гадовы жыхар суседняй вёскі. Хлопец працуе кіроўцам на філіяле прадпрыемства. У багажніку аўто праваахоўнікі знайшлі 50 літраў самагону. Праводзілася праверка. Раней грамадзянін неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На заставе «Маладзечанскай» затрымалі парушальнікаў са Шры-Ланкі

СМАРГОНЬ

Трое грамадзян са Шры-Ланкі спрабавалі незаконна трапіць у Літву. У паўкіламетры ад дзяржаўнай мяжы смаргонскія памежнікі затрымалі іх.

– Інцыдэнт адбыўся ў ноч з 10 на 11 красавіка. На пагранзаставу «Маладзечанская» паступіла інфармацыя, што спрацавала сігналізацыя. Трывожная група неадкладна прыступіла да пошуку невядомых. З дапамогай службовага сабакі памежнікі знайшлі сляды парушальнікаў. Неўзабаве атрад затрымаў трох маладых людзей, у якіх не аказалася дакументаў. Хлопцы прадставіліся грамадзянамі Шры-Ланкі і прызналіся, што накіроўваліся ў краіны Еўрасаюза за лепшым жыццём, – распавялі ў ДПК.

У дачыненні да парушальнікаў пачалі адміністрацыйны працэс за спробу незаконнага перасячэння мяжы, парушэнне правілаў знаходжання і пагранічнага рэжыму. За гэтыя правапарушэнні прадугледжаны штраф да 2900 рублёў і дэпартацыя.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**

Ахвотных далучыцца да рэспубліканскіх вучэнняў пошукава-выратавальнага атрада «Анёл» запрашаюць зарэгістравацца на сайце psoinfo.by.

Фота vk.com/uchenia_psoangel_2021.

# Запрашаюць навучыцца стаць «анёлам»

**Восьмыя рэспубліканскія вучэнні пошукава-выратавальнага атрада «Анёл» пройдуць ад 8 да 10 мая. Далучыцца да іх могуць усе ахвотныя.**

Пра тое, чым можа быць карысным навучанне і чым былі адметныя пошукі ў 2020 годзе, расказаў валанцёр атрада «Анёл Паўночны Захад» **Максім Федаровіч**.

### Як паўплывала пандэмія

2020 год адбыўся на розных сферах жыцця, а вось людзі губляліся, як і раней. Колькасць людзей, якія зніклі, прыкладна такая ж, як і ў гады да гісторыі з пандэміяй.

Затое каронавірус паўплываў на арганізацыю пошукаў. Валанцёрам спатрэбілася забяспечваць сябе маскамі, пальчаткамі, антысептыкамі. Удзельнікі, якія адчувалі прыкметы хваробы, заставаліся дома.

2020 год моцна ўдарыў па фінансавым складніку – у саміх валанцёраў узнікалі складанасці з працай. Ахвяраваць на дзейнасць атрада былі гатовыя нямногія.

**У такі надзвычайны перыяд людзі больш думалі пра сваю асабістую бяспеку, чым пра дапамогу. Таму дабрачыннасць у бок атрада была невялікая, прытым што менш пошукаў не стала.**

### Самыя складаныя пошукі

Валанцёры атрада «Анёл Паўночны Захад» займаюцца пошукам людзей, якія зніклі на тэрыторыі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага раёнаў. Але часта выпраўляюцца дапамагаць калегам і ў іншыя раёны.

У пачатку мінулага года выязджалі, напрыклад, у Лідскі раён. Малады чалавек з інваліднасцю ішоў з адной вёскі ў другую. Спачатку быў на сувязі, пасля сувязь абарвалася, ён знік. Разгарнулі маштабныя пошукі на тры дні, далучыліся работнікі лясгаса і выратавальнікі. Шукаць было не проста фізічна, таму што працавалі на забалочанай мясцовасці. Маладога чалавека дагэтуль не знайшлі.

Іншыя пошукі былі менш цяжкія фізічна. Але эмацыйна кожны выезд складаны.

У Маладзечанскім раёне асабліва складаных пошукаў летась не было. Як тлумачыць валанцёр, маладзечанскія лясы такія, што з іх магчыма вывесці чалавека, нават проста арыентуючы па тэлефоне. Да таго ж добра спраўляліся супрацоўнікі пажарна-аварыйнага выратавальнага атрада.

### Як дапамагчы атраду

Да каманды далучылася двое валанцёраў, якія пастаянна выязджаюць на пошукі. Многія з ранейшых удзельнікаў атрада сталі больш загружаныя працай, таму не могуць прысвячаць ініцыятыве столькі часу, як раней.

**Вельмі важна, каб былі людзі, якія ўмеюць арыентавацца на мясцовасці, весці групу валанцёраў. Такія веды можна атрымаць на вучэннях.**

Атраду можна дапамагчы і фінансава. Пералічыць грошы не атрымаецца, таму што атрад не мае рахунка. Але можна перадаць неабходныя для дзейнасці рэчы. Заўсёды патрэбны акумулятары і паліва. Можна набыць спецыяльныя карткі на бензін. Некаторыя могуць дапамагчы тым, што прывязуць на пошукі і завязуць назад. Дапамагаюць тым, што друкуюць арыенціроўкі або карты ў добрай якасці.

Валанцёры заўсёды гатовы даць справаздачу за выдаткаваныя сродкі, каб не ўзнікала пытанняў да празрыстасці арганізацыі.

### Як стаць «анёлам»

Пошукі паказваюць, што атраду вельмі не хапае гатовых спецыялістаў, якія навучаныя арыентавацца на мясцовасці, весці пошук. Часам для поспеху аперацыі проста не хапае людзей, каб ахапіць патрэбную тэрыторыю.

**Рэспубліканскія вучэнні правядуць на тэрыторыі летніка ва Уздзенскім раёне. Днём удзельнікі будуць займацца, а пасля будзе магчымасць адпачыць, прыняць душ. Аплачваюць толькі начлег і харчаванне.**

Удзельнічаць можна ад 18 год. Курс складаецца з шэрагу заняткаў – як тэарэтычных, так і практычных. Давядзецца шукаць аб'ект ва ўмовах, максімальна набліжаных да рэальных. Удзельнікі атрымаюць веды па арыентаванні на мясцовасці, навігацыі, працы ў радыёэфіры, аказанні першай медыцынскай дапамогі, дапамозе вадалазнай групе і іншым.

**Агулам вучэнні разлічаныя на 300 месцаў. Запісацца можна да 1 мая на сайце psoinfo.by. Будзе ўладкаваны дзіцячы пакой для тых, хто хоча далучыцца, але не мае магчымасці пакінуць дзяцей дома.**

Удзел у вучэннях не абавязвае далучацца да атрада. Гэта валанцёрская арганізацыя. Вы можаце далучыцца ў любы момант і ў любы момант адмовіцца ад удзелу. Атрыманыя веды спатрэбяцца як асабіста для сябе, так і для тых, хто адчувае ў сабе сілу стаць «анёлам».



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




Фота Настассі УПІЙНАЙ.

Падатковая інспекцыя расказвае, што прадугледжвае заканадаўства для заробкаў «у канвертах».

# Падатковая інспекцыя тлумачыць наступствы заробку «ў канвертах»

**Ад 1 студзеня з мэтай ліквідацыі зацікаўленасці наймальніка і работніка ў выплаце або атрыманні зарплаты «ў канверце» і прадухілення такіх сітуацый у выпадку ўстанаўлення падатковым органам такіх фактаў неўтрыманыя і неперaлічаныя ў бюджэт сумы падаходнага падатку з улікам палажэнняў артыкулаў 216 і 223 Падатковага кодэкса выплачваюцца ў бюджэт за кошт сродкаў падатковага агента (наймальніка). Выключэнне – калі падатковы агент не заплаціў падаходны падатак у сувязі з недастатковасцю або адсутнасцю маёмасці ў працэдуры ліквідацыйнай вытворчасці.**

Пры гэтым, улічваючы, што плацельшчыкамі падаходнага падатку з'яўляюцца фізічныя асобы, атрыманыя імі ў такіх выпадках даходы ў выглядзе выплачаных за іх падатковым агентам сум падаходнага падатку згодна з падпунктам 2.39 пункта 2 артыкула 196 ПК не будуць прызнавацца аб'ектам падаткаабкладання падаходным падаткам.

Пад неправамерным неўтрыманні і непералічэнні ў бюджэт сумы падаходнага падатку разумеецца невыкананне падатковым агентам ва ўстаноўлены тэрмін абавязку па ўтрыманню з даходаў фізічнай асобы і пералічэнню ў бюджэт сумы падаходнага падатку, што выказалася ў неадлюстраванні звестак пра аб'ект падаткаабкладання падаходным падаткам у падатковым і (або) бухгалтарскім уліку пры фактычнай наяўнасці, устаноўленай на падставе сабраных доказаў і дадзеных, прадстаўленых адпаведнымі органамі (абзац 8 часткі 2 артыкула 195 ПК).

**Дадзены падыход прымяняецца пры выяўленні фактаў выплаты зарплаты «ў канвертах» і да 1 студзеня бягучага года.**

З наймальнікаў, якія выплацілі зарплату «ў канверце» без адлюстравання ў справаздачнасці, спаганяюцца падаткі і іншыя абавязковыя плацяжы. За ўхіленне ад выплаты падаткаў прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з артыкуламі 14.3, 14.5 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях, а таксама прадугледжаная крымінальная адказнасць у адпаведнасці з артыкулам 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, пра факты выплаты зарплаты «ў канвертах» інфармуюцца Дэпартамент дзяржаўнай інспекцыі працы, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны для рэагавання ў межах кампетэнцыі.

**Паводле паведамлення Інспекцыі па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# Ускладненні – гэта самае страшнае пры каронавірусе

## Айцішнік расказвае, чаму вырашыў зрабіць прышчэпку ад кавіду-19

**«Прафілактыку лічу найлепшым лячэннем» – так тлумачыць айцішнік Віталь сваё рашэнне зрабіць прышчэпку ад каронавіруса. Майму суразмоўцу – 35. Ён працуе ў айці-галіне. Жыве ў Мінскім раёне, а ў наш рэгіён, на Валожыншчыну, прыязджае на лецішча.**



Фота 112ua.tv.

Расійскай вакцыне Віталь давяраў крыху больш, але мусіў вакцынавацца той, што была ў паліклініцы – кітайскай.

### Ваганняў не было, бо заўсёды вакцынуюся ад грыпу

Пра тое, што можна запісацца на прышчэпку, Віталь даведаўся з навін у інтэрнэце. Кажа, мае сезонную звычку заўсёды прышчапляецца ад грыпу, таму і з каронавірусам ваганняў не было.

– Не бачу варыянтаў, як нейкім іншым чынам, акрамя прышчэпкі, пазбавіць сябе рызыкі перахварэць на цяжкую форму кавіду, – дзеліцца мужчына.

І прыгадвае, што на каронавірус перахварэў летась, у лістападзе. Захворванне праходзіла ў лёгкай форме, пнеўманіі не было. Атрымалася нават так, што падчас хваробы антыцелы не выпрацаваліся. Гэта паказаў тэст, які мужчына зрабіў праз некалькі тыдняў пасля хваробы.

### Пасля першай прышчэпкі адчуваю сябе добра

– Прышчапляўся ў сваёй раённай паліклініцы, у Бараўлянах. Каб запісацца, проста патэлефанаваў туды. Вакцынацыя праходзіць у два этапы. Першую дозу мне ўжо зрабілі. Другую зробяць праз тры тыдні. Пасля першай прышчэпкі адчуваю сябе добра. Ніякіх змяненняў у стане не заўважаю, – расказвае Віталь.

Адзначае, што адзінае патрабаванне для ахвотных вакцынавацца – актуальная выпіска з амбулаторнай карткі і агляд тэрапеўта ў дзень вакцынацыі.

### Хацеў расійскую вакцыну, але была кітайская

Віталь прызнаецца, што больш хацеў вакцынавацца расійскім прэпаратам «Спутник V». Але ў паліклініцы адказалі, што вакцыны з Расіі цяпер няма, а калі з'явіцца, дакладна невядома.

– Прапанавалі той варыянт, што быў у паліклініцы – кітайская вакцына «Вера гель». Я палічыў, што трэба карыстацца тым, што ёсць. Тым больш, што гэты кітайскі прэпарат ужо досыць добра правераны на практыцы. Праўда, не такі эфектыўны, як той жа «Спутник V». Але маем тое, што маем.

Віталь адзначае, што некаторыя яго калегі і знаёмыя ўжо зрабілі прышчэпку. Напрыклад, яго жонка заяўку на вакцынацыю пакінула, але пакуль не дачакалася званка з паліклінікі.

– Лічу, калі няма відавочных супрацьпаказанняў, то трэба адназначна вакцынавацца. Ніякага іншага лепшага сродку ад прадухілення цяжкай формы кавіду няма. А пры гэтым захворванні, як і пры грыпе, самае страшнае – гэта ўскладненні, – падсумаваў суразмоўца.

«Спутник V» – першая ў свеце зарэгістраваная вакцына на аснове добра вывучанай платформы вектара адэнавіруса чалавека. Расійская вакцына ўжо зарэгістраваная больш чым у 30 краінах. Менавіта гэтым прэпаратам у рэгіёне прышчаплялі медыкаў і педагогаў.
«Вера гель» – вакцына, якую стварылі ў Кітаі. На той час, калі расійскай ужо вакцынаваліся, кітайская яшчэ праходзіла выпрабаванні.
Як сцвярджаюць навукоўцы, падчас выпрабаванняў расійская вакцына паказала 90 працэнтаў эфектыўнасці, а кітайская – 79,34 працэнта. Але абодва прэпараты Сусветная арганізацыя аховы здароўя і міжнародныя кантралюючыя арганізацыі аднеслі ў топ-5 найбольш эфектыўных супраць каронавіруснай інфекцыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Маладзечанскай ЦРБ пачалі рабіць новыя аперацыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Падчас невялікага эпідэмічнага зацішша актывізавалі ўкараненне высокіх медыцынскіх тэхналогій у Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы.**

Як распавяла галоўны доктар **Дар'я Калядзіч**, «у сувязі са стабілізацыяй і некаторым паляпшэннем эпідэміялагічнай абстаноўкі ў Мінскай вобласці, пераразмеркавалі патокі пацыентаў для правядзення каранараангіяграфіі і наступнага празкурнага каранарнага ўмяшання.

7 красавіка ў Маладзечанскай бальніцы правялі першыя ангіяграфічныя даследаванні, а таксама эндаваскулярную балонную дылатацыю і стэнціраванне каранарнай артэрыі пацыентам Маладзечанскага раёна».

Пры падрыхтоўцы да правядзення такіх аперацый дактары Маладзечна прайшлі навучанне.

7 красавіка доктар, загадчык кабінета ангіяграфіі **Віталь Богдан** правёў першую аперацыю. Удзел у ёй таксама ўзялі абласныя спецыялісты, якія маюць вялікі досвед такога ўмяшання.

**Каранаграфія** – метад даследавання, які з'яўляецца найбольш дакладным і пэўным спосабам дыягностыкі ішэмічнай хваробы сэрца. Метад дазваляе дакладна вызначыць характар, месца і ступень звужэння каранарнай артэрыі.
**Ангіяграфія** – метад, які дазваляе ацаніць унутраны прасвет сасудаў – наяўнасць звужэння, пашырэння або поўнае спыненне прытоку крыві да сасуда.
**Эндаваскулярная хірургія** – хірургічнае ўмяшанне, якое праводзіцца на крывяносных сасудах, празкурным доступам з выкарыстаннем спецыяльных інструментаў.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**



Фота з тэлеграм-канала Міназдароўя.

Падчас аперацыі ў Маладзечанскай ЦРБ.

## Беларусь 1

**6.00, 21.40** Х/ф **«СЧАСТЛИВАЯ ЖИЗНЬ КСЕНИИ».**

**8.00** Існасць [СТ].

**8.30** Смысл жизни.

**9.00, 12.00, 15.00** Навости.

**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».

**9.55** Здоровье [СТ].

**10.45** Дача.

**11.20** «Повод есть».

**12.10** Один день.

**12.40** Х/ф **«ПРОСТАЯ ДЕВЧОНКА».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.10** Краіна.

**15.40** Истории спасения.

**16.10, 19.25** Х/ф **«РОДСТВЕННЫЕ СВЯЗИ».**

**19.00** «Вопрос номер один».

**21.00** Панорама.

**1.40** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 17.30** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Анимация для всей семьи «Головоломка».

**11.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**12.15** «Камень, ножницы, бумага».

**12.50** «На неделю».

**13.35** Х/ф **«НАВСЕГДА МОЯ ДЕВУШКА».**

**15.30** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ: ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**

**17.35** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**19.35, 21.15** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод V — Империя наносит удар».

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**22.15** Х/ф **«БЛИЗКО К СЕРДЦУ».**

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».

**8.00, 14.10** Навіны культуры.

**8.20** «Как Петя Пяточкин слоников считал». Мультфільм.

**8.30** «Старыя-разбойнікі». Мастацкі фільм.

**10.00** «Народны майстар». Алена Гурэцкая (лозапляценне).

**10.25** «Беларуская кухня». Кугель з агародніны.

**10.50** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.15** «Дзяржаўная граніца». Фільм чацвёрты «Чырвоны пясок» [СТ].

**13.45** «Навукаманія».

**14.30** «Уцекачы». Мастацкі фільм.

**16.00** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**16.15** Канцэрт ВІА «Поющие гитары». «Нет тебя прекрасней».

**17.30** «Люблю і памятаю». Аўтарская праграма Уладзіміра Арлова. Джазавы піяніст, аранжыроўшчык, кампазітар Аркадзь Эскін.

**18.10** «Цётка Маруся». Мастацкі фільм.

**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — кандыдат філалагічных навук, загадчыца кафедры тэлебачання і радыёвяшчання БДУ Алеся Кузьмінава.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Дарослыя дзеці». Мастацкі фільм [СТ].

**22.15 Т/ф «ЛЕАНІДЫ НЕ ВЯРНУЦЦА НА ЗЯМЛЮ».**

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».

**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».

**10.25** Премьера ОНТ: «Утро вечера мудренее».

**11.00** «Однажды в Париже. Далида, Дассен».

**12.05** Видели видео?

**12.45** «Свадьба в Малиновке». Непридуманные истории».

**13.30** Х/ф **«СВАДЬБА В МАЛИНОВКЕ».**

**15.15** «ДОстояние РЕспублики: Джо Дассен».

**16.20** «ДОстояние РЕспублики: Джо Дассен». Продолжение.

**17.05** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**18.20** Премьера. «Сегодня вечером».

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.05** «Голос. Дети». Новый сезон.

**22.45** Х/ф **«ПОД ПРИЦЕЛОМ ЛЮБВИ».**

**0.55** Х/ф **«ПЕРЕКРЁСТОК».**

## СТВ

**6.05, 0.00** «Пища богов».

**7.45** «Анфас».

**8.05** Документальный проект.

**9.00** «Самая полезная программа».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.20, 13.40, 16.40** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**20.20** «СТВ-спорт».

**20.30** Документальный спецпроект.

**22.05** «Территория заблуждений».

## Мир

**5.00, 6.10, 8.10** Мультфильмы.

**6.00** «Всё, как у людей».

**7.10** «Игра в слова» с Антоном Комоловым.

**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00** Погода в Мире.

**10.10, 3.30** Х/ф **«БРОНЗОВАЯ ПТИЦА».**

**14.20, 16.15, 19.15** Х/ф **«ТИХИЙ ДОН».**

**16.00, 19.00** Новости.

**22.25** Х/ф **«ЗНАХАРЬ».**

**1.05** Х/ф **«ВИЙ».**

**2.15** Х/ф **«ПОДКИДЫШ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.

**6.15** «Дача».

**7.10** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.45** «Один день».

**9.25** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** «Сломать стереотипы».

**10.45** «Главная дорога».

**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**12.10** «Квартирный вопрос».

**13.05** «Истории спасения».

**13.35** «Поедем, поедим!».

**14.10** Х/ф **«ЧАСЫ ОСТАНОВИЛИСЬ В ПОЛНОЧЬ».**

**16.20** «Секрет на миллион». Михаил Шуфутинский.

**18.10** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**19.55** Х/ф **«ЛИХАЧ».**

## Беларусь РТР

**7.05** «Новое Утро».

**9.30** «СДЕЛАНО». Документальный проект.

**9.50** «Тайны Беларуси».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** «Наше дело».

**11.45** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».

**13.00** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**14.10** Х/ф **«НЕ ГОВОРИ МНЕ «ПРОЩАЙ!».**

**16.10** Х/ф **«ГРАЖДАНСКАЯ ЖЕНА».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.30** Х/ф **«НЕКРАСИВАЯ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.20, 1.05** И пришёл паук. **6.05** Белоснежка и охотник. **9.15** Ван Хельсинг. **11.30** Код Да Винчи. **14.05** Ангелы и Демоны. **16.25** Искусственный разум. **19.00** Особое мнение. **21.25** Меняющие реальность. **23.15** Эквилибриум. **2.40** Красавица и чудовище.

### TV1000 ACTION

**5.50** Рэмбо: Первая кровь 2. **7.55** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **10.05** Телохранитель киллера. **12.05, 3.20** Геракл: Начало легенды. **13.40** Орёл Девятого легиона. **15.35** Центурион. **17.15, 1.50** Викинги. **19.00** Ангелы Чарли. **20.35** Ангелы Чарли: только вперёд. **22.30** D.O.A.: Живым или мёртвым. **23.50** Особо тяжкие преступления.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.35** Хороший мальчик. **7.25** Кровавая леди Батори. **9.15** Яга. Кошмар тёмного леса. **11.15** Снежная королева 3. Огонь и лёд. **12.45** Снежная Королева: Зазеркалье. **14.15** Домовой. **16.00** Рассвет. **17.45** Парень с нашего кладбища. **19.25** Призрак. **21.20** Напарник. **23.05** Люби их всех. **0.45** Чёрная молния. **2.25** Поцелуй сквозь стену. **4.05** Девятая.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.20, 9.55, 10.25, 11.00, 11.30, 12.00** Скрипт-реалити «Старец». **12.45** Х/ф **«ЛОВУШКА ВРЕМЕНИ». 14.30** Х/ф **«ФАНТАСТИЧЕСКАЯ ЧЕТВЕРКА». 16.45** Х/ф **«ПЯТОЕ ИЗМЕРЕНИЕ». 19.00** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **20.30** Х/ф **«ХИЖИНА В ЛЕСУ». 22.30** Х/ф **«ГОРИ, ГОРИ ЯСНО». 0.15** Х/ф **«ИГРА В ИМИТАЦИЮ». 2.15, 3.00, 3.45** «Мистические истории». **4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** «Лестница в небеса». **12.00, 20.00, 4.00** «Чужая дочь». **13.00, 21.00, 5.00** «Адмирал». **14.00, 22.00, 6.00** «Выхожу тебя искать». **15.00, 23.00** «Господа-товарищи. Неуловимый». **7.00** «Господа-товарищи.Веер дьвола».

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ДРУЖИТЬ ПО-РУССКИ!». 3.15** Х/ф **«РОБИН ГУД: МУЖЧИНЫ В ТРИКО». 5.10** Х/ф **«НЕ МОГУ ДОЖДАТЬСЯ». 7.05** Х/ф **«МАЙКЛ». 9.00** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ». 10.50** Х/ф **«О ЧЁМ ЕЩЁ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ». 12.40** Х/ф **«О ЧЁМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ». 14.30** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО». 17.00** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО». 19.30** Х/ф **«ОХОТНИК ЗА ГОЛОВАМИ». 21.35** Х/ф **«МИЛАШКА». 23.10** Х/ф **«БЕЛЫЕ ЦЫПОЧКИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.15, 21.40, 22.35, 23.35** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 2.10, 3.40, 4.30, 5.25, 6.20, 7.15, 8.15, 9.15, 10.10, 11.05, 12.00, 12.55** Т/с **«УЧИТЕЛЯ». 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55, 19.50, 20.45** Т/с **«СЕРДЦЕ АНГЕЛА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.10** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Реалити-шоу «КОЛЛЕДЖ». **13.35** Х/ф **«ВЫКУП». 15.25, 21.00, 3.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **17.05** Х/ф **«БУНТАРКА». 19.05** Х/ф **«КАНИКУЛЫ ДЖОЙ». 22.35** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА: РОЗЫСК ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ». 0.10** Х/ф **«ДЕДУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 23.10** Плавание. Открытый чемпионат Беларуси. Финалы. **9.00** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура. **9.55** Спортивная гимнастика. Чемпионат Европы. Базель. Финалы. **11.15** Большой спорт. **12.00** Теннис. WTA. Стамбул. 1/2 финала. **13.50** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 6-й тур. Динамо (Брест) — ФК Витебск. **15.50** Футбол. На пути к ЕВРО-2020. **16.20** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **16.50** Спорт-центр. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Хэм- Челси. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Борьба. Чемпионат Европы. Варшава. Финалы.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 8.00, 11.00, 12.00, 17.00, 19.30, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Второй раунд. **1.00, 6.00, 9.30** Велоспорт. «Тур Альп». Пятый этап. **2.30, 7.00** Велоспорт. «Париж — Рубе». **15.00** Автогонки. Формула Е. Валенсия. Квалификация. **15.30** Автогонки. Формула Е. Валенсия. Первая гонка.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.55** Трасса А2. **6.45, 9.05, 11.40, 14.55, 17.45, 22.35, 0.35, 3.05** Итоговые новости. **7.00, 18.05** Автовинтаж. **7.30, 8.35** Резьба по стали. **8.00** В новую жизнь! **9.25** Сделаем как надо. **9.55, 13.05** Все включено. **10.30, 0.55** Тест с дядей Ваней. **11.10, 19.30, 22.55, 3.20** Возвращение легенды. **11.55, 20.00, 23.45, 3.45** АВТОбиография. **12.55, 20.50** Наезд! **13.25, 1.40** Тест на «Драйве». **14.25, 2.35** Сити-тестер. **15.15, 21.00, 4.35** Эконом-тест. **15.35, 21.20, 4.50** Хорошо забытое. **16.10, 21.50, 5.20** Советы юриста. **18.35** Школа внедорожного вождения. **18.55** Проверка на дороге. **23.25** Автолайф. **1.25** Мото тест-драйв.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.35, 8.25, 9.10, 0.40, 1.25, 2.15, 3.00, 3.50, 4.35** Австралийские золотоискатели. **10.00, 10.45, 11.30, 12.15, 13.05, 13.50, 14.35, 18.05** Драндулеты на продажу. **15.25, 21.20, 22.30** Чудовищный карп. **16.15** Ледовые викинги. **17.00** Канализация за пять миллиардов. **18.50** Бирюзовая лихорадка. **19.35, 20.30** Речные чудовища. **23.20, 23.45, 0.10** Австралийские ловцы быков. **5.20** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.05, 6.45, 3.20, 4.05** Музейные тайны. **7.30, 0.45** Загадки Египта. **8.20, 1.35** Титаник: истории из глубины. **9.05, 2.25** Золотое кораблекрушение. **10.05** Тайна Копья Судьбы. **11.00** Вена: империя, династия и мечта. **11.55** Ватикан — вечный город наместников божьих. **12.50, 13.40** Очень странные экспонаты. **14.30, 15.20** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **16.10, 17.15, 18.20** Наполеон. **19.20, 20.15** Николай и Александра: последние монархи России. **21.10** Затерянная пирамида Египта. **22.00** Тайная история рыцарей Храма. **22.55, 23.50** Невидимые города Италии. **4.50** Расшифрованные сокровища.

### NATURE

**6.00, 11.00** Законы Серенгети. **6.55** Медведь — спасатель коал. **7.45, 8.35, 9.25, 10.10** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **11.55, 12.55, 13.50** Волшебная страна Оз. **14.50, 15.45, 16.35** Загадочная планета. **17.25, 18.20, 19.10** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **20.05** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. Съемки. **21.00, 21.50, 22.35, 23.25** Суровая Австралия. **0.10** Невероятные встречи с животными. **1.00** Рассказы о бурях. **1.45, 4.10, 5.05** Выживание в дикой природе. **2.35** В зоопарке Таронга. **3.20** Спасение диких медведей. **3.45** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.10, 7.55** Дикий тунец. **7.05, 8.45** Авто-SOS. **9.35** Тайвань-остров рыбы. **10.25, 11.20, 12.15** Враждебная планета. **13.10, 14.00** Осушить океан. **14.55** Сканируя время. **15.45, 16.40** Секретные материалы древности. **17.30, 18.25, 19.15** Три вождя. **20.10, 21.00, 21.50, 22.40, 23.30** Северная Корея. **0.15, 1.00** Истории спасения. **1.50** Расследования авиакатастроф. **2.30, 3.20** Самые лучшие суперкары. **4.05, 4.50** Настоящий суперкар. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 13.05, 14.10, 15.10, 16.10, 17.05, 18.10, 19.10, 20.05, 21.05, 22.10, 23.10, 0.10, 1.10, 2.10, 3.10, 4.05, 5.00** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.35, 13.40, 14.40, 15.40, 16.35, 17.40, 18.40, 19.35, 20.35, 21.40, 22.40, 23.40, 0.40, 1.40, 2.40, 3.40, 4.35, 5.35** Рыбный день. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 14.15, 18.15, 22.20, 2.20** У мангала. **6.30, 9.20, 14.45, 18.45, 22.50, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 11.00, 15.05, 19.05, 23.05, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.20, 19.20, 23.25, 3.20** Секреты стиля. **7.30, 11.50, 15.50, 19.50, 23.55, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.40, 16.55, 20.55, 0.50, 4.35** Сельсовет. **8.35, 20.40, 1.05, 4.50** Готовим на природе. **8.50, 13.10, 17.10, 21.15, 1.20, 5.05** Умный дом. Новейшие технологии. **9.40, 13.45, 17.45, 21.45, 1.50, 5.30** Мегабанщики. **10.10** Альтернативный сад. **10.45, 16.40** Куличи. **12.55** 50 оттенков желе. **15.20** Стройплощадка.

## Беларусь 1

**5.50** Слово Митрополита Вениамина на праздник Входа Господнего в Иерусалим.

**6.00** Х/ф **«СЧАСТЛИВАЯ ЖИЗНЬ КСЕНИИ».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ПРОСТАЯ ДЕВЧОНКА».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Вокруг планеты.

**16.00** «Повод есть».

**16.35, 19.10** Х/ф **«ПОСЛУШНАЯ ЖЕНА».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«РОДСТВЕННЫЕ СВЯЗИ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**10.25** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**11.10** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ: ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**

**13.15** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.10** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.45** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.35** Х/ф **«БЛИЗКО К СЕРДЦУ».**

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«НАВСЕГДА МОЯ ДЕВУШКА».**

**23.10** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.15, 14.45** Навіны культуры.

**7.35** «Дарослыя дзеці». Мастацкі фільм [СТ].

**8.50** «Размовы пра духоўнае». Вербная Воскресенье (прав.).

**9.00** «Вербная Воскресенье». Трансляцыя набажэнства з Свята-Елісавецінскага манастыра (Мінск).

**11.05** «Наперад у мінулае».

**11.30** «Беларуская кухня». Стромга з яблыкамі.

**12.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.50** «Народны майстар». Ларыса Лямцава (абярэгавая лялька).

**13.15** «Уцекачы». Мастацкі фільм.

**15.05** «Цётка Маруся». Мастацкі фільм.

**17.20** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча «Маміна пласцінка».

**18.10** «Дзяржаўная граніца». Фільм чацвёрты «Чырвоны пясок» [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Старыя-разбойнікі». Мастацкі фільм.

**22.35** «Маладыя зоркі сусветнай оперы». Канцэрт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Премьера. «Доктора против интернета».

**10.35** ОНТ представляет: «Народный повар».

**11.55** Х/ф **«ПОД ПРИЦЕЛОМ ЛЮБВИ».**

**14.00** Т/с **«СВАДЬБЫ И РАЗВОДЫ».**

**16.20** Филипп Киркоров. «Яркий Я».

**17.40** «Точь-в-точь». Новый сезон. Финал.

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.10** «Что? Где? Когда?» Весенняя серия игр. Финал.

**23.30** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.50** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «Еврейское счастье».

## СТВ

**6.30, 1.55** «Пища богов».

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Знаете ли вы что?».

**12.20, 13.40, 16.40** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.15** Х/ф **«ЧАКЛУН И РУМБА».**

**22.40** Т/с **«NEXT».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«БРОНЗОВАЯ ПТИЦА».**

**6.50** «Секретные материалы». Страсти по королеве.

**7.20** Х/ф **«ЛОНДОНСКИЕ КАНИКУЛЫ».**

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ГОРЯЧИЙ СНЕГ».**

**12.25, 16.15** Т/с **«ТУМАН».**

**17.10, 19.30** Т/с **«ТУМАН 2».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**21.40, 1.00** Т/с **«УБИТЬ СТАЛИНА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.25** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.55** «Первая передача».

**11.25** «Чудо техники».

**12.15** «Дачный ответ».

**13.15** «НашПотребНадзор».

**14.10** Артем Курень, Петр Юрченков, Вероника Пляшкевич в остросюжетном детективе «Следы на воде».

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Ты не поверишь!».

**21.15** Х/ф **«СЛЕД ТИГРА».**

**23.00** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.30** «Звезды сошлись».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«ИНСАЙТ».**

**8.50** Х/ф **«НА ПЕРЕПУТЬЕ».**

**10.45** ПРЕМЬЕРА. «Большая переделка».

**11.50** Х/ф **«СПАСТИ МУЖА».**

**15.20** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**16.00** Х/ф **«ПРОСТИ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.35** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**22.15** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

**0.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И НЕМНОГО ПЕРЦА».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Маска Зорро. **7.45** Легенда Зорро. **10.20** Искусственный разум. **12.55** Особое мнение. **15.25** Меняющие реальность. **17.15** Таинственный лес. **19.05** Чёрный лебедь. **21.00** Обитель проклятых. **23.00** Лекарство от здоровья. **1.25** Тристан и Изольда. **3.25** Дракула.

### TV1000 ACTION

**5.10** Орёл Девятого легиона. **6.50** Центурион. **8.25** Особо тяжкие преступления. **10.25** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **12.25** D.O.A.: Живым или мёртвым. **13.50** Ангелы Чарли. **15.30** Ангелы Чарли: только вперёд. **17.20** Напролом. **19.00** Вспомнить всё. **21.00** Дум. **22.40** Нечто. **0.25** Два ствола. **2.10** Ограбление по-итальянски. **3.55** Мальчики-налётчики.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.00** Кольская сверхглубокая. **8.15** Призрак. **10.25** Напарник. **12.10** Затмение. **13.40** Рассвет. **15.20** Чёрная молния. **17.10** О чём говорят мужчины. **19.00** День выборов 2. **20.55** День города. **22.40** Каникулы президента. **0.25** Русалка. Озеро мертвых. **1.55** Яга. Кошмар тёмного леса. **3.50** Вурдалаки.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.30** «Новый день». **9.00, 9.35, 10.10, 10.45, 11.15** Скрипт-реалити «Слепая». **11.45** Х/ф **«ПЯТОЕ ИЗМЕРЕНИЕ». 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00** Т/с **«ЧЕРНОБЫЛЬ. ЗОНА ОТЧУЖДЕНИЯ». 22.00** «ЧЕРНОБЫЛЬ. ЗОНА ОТЧУЖДЕНИЯ. ФИНАЛ». **0.15** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **1.30** Х/ф **«ГОСТЬЯ». 3.30** Х/ф **«ИГРА В ИМИТАЦИЮ». 5.15** Т/с **«БАШНЯ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** «Лестница в небеса». **12.00, 20.00, 4.00** «Чужая дочь». **13.00, 21.00, 5.00** «Адмирал». **14.00, 22.00** «Выхожу тебя искать». **15.00, 23.00, 7.00** «Господа-товарищи. Веер дьвола». **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак». **6.00** «Плацента».

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!». 3.00** Х/ф **«НЯНЬКИ». 4.45** Х/ф **«НЕВАЛЯШКА». 6.30, 13.45** Х/ф **«ДРУГ НЕВЕСТЫ». 8.20** Х/ф **«МИЛАШКА». 10.00** Х/ф **«КАК ВЫЙТИ ЗАМУЖ ЗА МИЛЛИАРДЕРА». 11.45** Х/ф **«РОБИН ГУД: МУЖЧИНЫ В ТРИКО». 15.35** Х/ф **«БЕЛЫЕ ЦЫПОЧКИ». 17.35** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ». 19.30** Х/ф **«СВАДЬБА ЛУЧШЕГО ДРУГА». 21.25** Х/ф **«НЕ МОГУ ДОЖДАТЬСЯ». 23.20** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.30, 2.20, 21.10, 21.55, 22.55, 23.50** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 3.15, 4.10, 5.00, 6.00, 7.05, 8.05, 9.05, 10.10** Т/с **«ВОСХОЖДЕНИЕ НА ОЛИМП». 11.10** Т/с **«АДВОКАТ ДЬЯВОЛА». 13.55** Т/с **«ШЕРЛОК: ЕГО ПОСЛЕДНИЙ ОБЕТ». 15.40** Т/с **«ШЕРЛОК: ШЕСТЬ ТЭТЧЕР». 17.30** Т/с **«ШЕРЛОК: ШЕРЛОК ПРИ СМЕРТИ». 19.20** Т/с **«ШЕРЛОК: ПОСЛЕДНЕЕ ДЕЛО».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.05** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«МАЛЬЧИК В ДЕВОЧКЕ». 14.35** Т/с **«ПОГНАЛИ». 16.55** Х/ф **«ИЛЛЮЗИОНИСТ». 19.00** Х/ф **«ДВА МИРА». 21.00, 0.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **1.35** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.50** Теннис. WTA. Штутгарт. 1/2 финала. **8.50** Спортивная гимнастика. Чемпионат Европы. Базель. Финалы. **10.55** Игры «на вырост». **11.25** Пит-стоп. **11.55** Футбол. Чемпионат Англии. **13.50** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Астана (Нур-Султан) – Цмокі-Мінск. **15.45** Спорт-центр. **17.45** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Шестой тур. Шахтер (Солигорск) – Рух (Брест). В перерыве Спорт-центр. **19.45** Борьба. Чемпионат Европы. Варшава. Финалы. **21.00** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **22.50** Итоги недели. **23.35** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Шестой тур. Обзор. **0.20** Теннис. WTA. Штутгарт. Финал.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 8.00, 18.15, 19.30, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Второй раунд. **1.00** Велоспорт. «Тур Альп». Первый этап. **1.30** Велоспорт. «Тур Альп». Второй этап. **2.00** Велоспорт. «Тур Альп». Третий этап. **2.30** Велоспорт. «Тур Альп». Четвертый этап. **3.15** Велоспорт. «Тур Альп». Пятый этап. **6.00** Велоспорт. «Льеж – Бастонь – Льеж». **9.30** Велоспорт. «Париж – Рубе». Женщины. **10.30** Велоспорт. Amstel Gold. Женщины. **11.30** Велоспорт. «Флеш Валлонь». Женщины. **12.20** Велоспорт. «Льеж – Бастонь – Льеж». Женщины. **13.45** Велоспорт. «Флеш Валлонь». Мужчины. **14.25** Велоспорт. «Льеж – Бастонь – Льеж». Мужчины.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 17.55** Трасса А2. **6.45** Проверка на дороге. **7.30** Резьба по стали. **7.55, 10.00, 13.00, 15.40, 18.40, 23.05, 1.10, 3.30** Итоговые новости. **8.15** Испытание на прочность. **8.50, 12.40** Все включено. **9.20** Сделаем как надо. **9.50** Автолайф. **10.20, 0.30** Тест с дядей Ваней. **10.55, 19.25, 22.35, 3.00** Возвращение легенды. **11.30, 16.40, 23.20** Тайный покупатель. **11.45, 19.55, 23.40, 3.45** АВТОбиография. **13.20, 1.40** Тест на «Драйве». **14.20, 2.35** Сити-тестер. **14.50, 21.00, 4.35** Эконом-тест. **15.05, 4.50** Хорошо забытое. **15.55, 21.50, 5.20** Советы юриста. **17.20** Автовинтаж. **19.00** Школа внедорожного вождения. **19.20, 20.50** Наезд! **21.20** Сравнительный тест. **1.25** Мото тест-драйв.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.20, 8.10, 9.00, 9.55** Речные чудовища. **10.45** Чудовищный карп. **11.55, 23.00** Бирюзовая лихорадка. **12.40, 13.30, 14.15, 15.05, 15.50, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35, 21.25, 22.10** Австралийские золотоискатели. **23.45, 0.10, 0.35, 1.00, 1.25, 1.50, 2.20, 2.45, 3.10, 3.35, 4.00, 4.25, 4.50, 5.20** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.10, 6.55, 2.50, 3.40** Музейные тайны. **7.40, 20.55, 0.25** Загадки Египта. **8.25, 9.15, 10.05, 1.15, 2.00** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **10.55, 11.45** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **12.35, 20.00** Ватикан – вечный город наместников божьих. **13.35** Вена: империя, династия и мечта. **14.25, 15.15** Очень странные экспонаты. **16.05** Наполеон. **17.10, 18.05, 19.00** Тайная история рыцарей Храма. **21.45** Время великанов. **22.40** Невидимые города Италии. **23.35** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **4.25, 5.15** Расшифрованные сокровища.

### NATURE

**6.05** Уличный ветеринар. **6.35, 7.30, 8.30** Волшебная страна Оз. **9.25, 13.55** Законы Серенгети. **10.20, 11.15, 12.10** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **13.00** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. Съемки. **14.50, 15.40, 16.30** Загадочная планета. **17.25, 18.15, 19.00, 19.50** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **20.40, 21.25, 22.15, 23.05** Суровая Австралия. **23.50** Невероятные встречи с животными. **0.40** Рассказы о бурях. **1.25, 4.20, 5.10** Выживание в дикой природе. **2.15** В зоопарке Таронга. **3.05** Спасение диких медведей. **3.25, 3.55** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.20** Короли рыбалки. **8.05, 8.55, 1.55, 2.40** Авто-SOS. **9.45** Япония: между небом и землей. **10.35** Древний Китай с высоты птичьего полета. **11.25** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **13.05, 13.55, 14.45** Остров бунтарей. **15.35, 16.35, 17.30** Деревянная кожа. **18.25, 19.15, 20.10, 21.00, 21.50** Инстинкт выживания. **22.40** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **0.20, 1.10** Вторая мировая война: Ад под водой. **3.25** Расследования авиакатастроф. **4.10, 4.55** Машины: Разобрать и продать.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 14.05, 17.55, 2.10** Андрей Старков и его команда. **6.30, 10.25, 22.40, 2.40** Охота в Удмуртии. **7.00, 3.05** Мой мир – рыбалка. **7.30, 11.25, 15.20, 19.25, 23.40, 3.40** Мир рыболова. **8.00, 15.50, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.25, 16.20, 20.25, 0.40, 4.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.05, 13.00, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 13.30, 17.25, 21.35, 5.30** Готовим на природе. **10.55, 14.50, 19.00** Нахлыст без границ. **11.55, 0.05** Рыбалка сегодня XL. **13.45, 17.40, 21.50, 5.45** Давай зарубимся! **14.35** Кодекс охотника. **18.30** Сам себе охотник. **20.00** Поехали на рыбалку! **21.00** На рыбалку с охотой. **22.10** Рыбалка в России. **23.10** Безграничная рыбалка,. **1.40** Зима. Удочка. Поклевка.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.15, 14.15, 18.15, 22.20, 2.20** У мангала. **6.30, 9.20, 14.45, 18.45, 22.50, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 11.00, 15.05, 19.05, 23.05, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.20, 15.20, 19.20, 23.25, 3.20** Секреты стиля. **7.30, 11.50, 15.50, 19.50, 23.55, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.40, 16.55, 20.55, 0.50, 4.35** Сельсовет. **8.35, 12.55, 20.40, 1.05, 4.50** Готовим на природе. **8.50, 17.10, 21.15, 1.20, 5.05** Умный дом. Новейшие технологии. **9.40, 13.45, 17.45, 21.45, 1.50, 5.30** Мегабанщики. **10.45, 16.40** Куличи. **13.10** Стройплощадка.

# Як немцы мадэрнізавалі маёнткі на Вілейшчыне

## Марэк Лампрэхт – пра гісторыю сваёй сям'і

*Працяг. Пачатак у №15.*

ВІЛЕЙКА

**Ад канца 19 стагоддзя на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне жылі і працавалі прадстаўнікі роду Лампрэхтаў. Будавалі ў мясцовых маёнтках заводы і вадзяныя млыны, мадэрнізавалі панскія гаспадаркі і паспяхова кіравалі імі.**



Сям'я Лампрэхтаў каля свайго дома ў Вязыні ў 1919 годзе.

Сёння іх нашчадак, Марэк Лампрэхт, жыве ў Варшаве і даследуе свой род. Для чытачоў «Рэгіянальнай газеты» Марэк падрыхтаваў матэрыялы пра гісторыю роду. Сёння адзін з іх – пра Вязынь.

### Як Генрых Лампрэхт мадэрнізаваў маёнтак у Вязыні

У канцы 19 стагоддзя маёнтак Вязынь перажываў вялікія змены. Яго ўладальнік **Іпаліт Гецэвіч** хацеў мадэрнізаваць сваю ўзорную ферму. Маёмасць была для тых часоў велізарная – акрамя маёнтка продкаў з фермай,ва ўласнасці пан меў некалькі вёсак і сядзіб, вялікія лясы ў ваколіцах Вязыні. У 1894 годзе Гецэвіч наняў нямецкага інжынера **Генрыха Лампрэхта** для арганізацыі справы.

На поўнач ад сядзібы стварылі новае гаспадарчае паселішча, якое мела нават свае вуліцы – Парабковую, Цэнтральную і Палявую. Тут пабудавалі новыя памяшканні для працы майстроў і дамы для рабочых. Закупілі сучасную англійскую сельгастэхніку, мадэрнізавалі кузню, лесапільню і млын на Віліі.

Генрых стварыў шэраг інавацыйных прадпрыемстваў, выкарыстоўваючы ўсе дарункі гэтай зямлі. З'явіліся новыя малаказавод, канюшня і кароўнік, у якім выводзіліся сучасныя пароды галандскіх кароў. На фермах запрацавалі паравыя машыны, якія выконвалі самыя цяжкія працы ў гаспадарцы. Пра эфект усіх гэтых змен сведчыць той факт, што ўпершыню ва ўсёй Беларусі ўключылі электрычнасць у адной з ферм – у Вязыні.

### Караль Лампрэхт і Багдановічы

Працу Генрыха заўважылі і іншыя паны з наваколля. Сям'я **Багдановічаў** з маёнтка Стайкі таксама планавала сур'ёзныя змены. Пасля падзелу буйнога маёнтка Багдановічы пабудавалі тры новыя асабнякі – у Мацькаўцах, Зацемені і Абадоўцах. Брат Генрыха, **Караль**, скарыстаўся гэтай магчымасцю. Ён уладкаваўся на будаўніцтва новага вадзянога млына ў Мацькаўцах, якое завяршылася ў 1901 годзе. Гэты млын, адзін з нямногіх, захаваўся да нашых часоў.

Шмат падобных будынкаў з'явілася, верагодна, пад наглядам Караля – бровар у Стайках, дом у Старынках. Характэрная тэхніка будаўніцтва з палявога каменя, верагодна, – ідэя Лампрэхтаў, таму што ніхто раней у гэтых мясцінах так не будаваў. У мясцовасці шмат руін падобных будынкаў. Нават касцёл у Ілі ў 1908 годзе быў пабудаваны ў падобнай тэхніцы. Сяляне збіралі камяні ў полі, а паны плацілі ім за поўныя фурманкі.

### Жонак Лампрэхты знайшлі сярод мясцовых дзяўчат

Сярод мясцовай шляхты Генрых і Караль знайшлі сваіх будучых жонак. Генрых ажаніўся са **Стэфаніяй Зублевіч** з Вязыні. Дарэчы, яе пляменнік стаў кіраўніком Вілейкі ў 1930-х. Магіла бацькоў Стэфаніі і сёння знаходзіцца на старых могілках у Вязыні.

Караль ажаніўся з **Анэляй Казлоўскай** з польскай сям'і ў Альковічах. Урачыстыя вянчанні зладзілі ў старым драўляным касцёле ў Альковічах у 1895 годзе. Такім чынам, два браты кіравалі двума маёнткамі найбуйнейшых землеўладальнікаў раёна.

Захапленнем Генрыха былі коні. У наступныя гады яго гадаванцаў высока ацэньвалі на шматлікіх сельскагаспадарчых выставах у Віленскай губерні.

У Генрыха і Стэфаніі была дачка **Зофія**, якая стала выдатным доктарам у шпіталі ў Варшаве ў незалежнай Польшчы. Сын Генрых-малодшы вучыўся ў Мінску і Вільні. Падчас вучобы ў гімназіі быў разведчыкам польскага корпуса Доўбара-Мусніцкага ў баі з бальшавікамі за Бабруйск у 1918 годзе. За гэта атрымаў доблесны крыж.

А Караль пасля некалькіх гадоў працы ў сям'і Багдановічаў з'ехаў з сям'ёй у маёнтак Лемна Ігуменскага павета. Там ён перабудаваў стары маёнтак роду Зублевічаў. І менавіта там нарадзіўся мой дзед **Лявон**, які потым стаў лясніцкім у Любані, што каля Вілейкі. А пасля пайшоў на вайну і заваяваў Берлін.

### Мінулае і сучаснасць Вязыні

Генрых Лампрэхт, бацька Караля і Генрыха-малодшага, памёр у Пасерэе ў Літве ў 1903 годзе. Яго жонка Іаанна пераехала да сына Генрыха ў Вязынь. Тут памерла ў 1910 годзе. Яе помнік на мясцовых могілках па-ранейшаму стаіць недалёка ад магіл Гецэвічаў.

Сёння цяжка ўявіць, наколькі жывым было ўсё навакол. Вязынь была поўная жыхароў, у маёнтку працавалі майстэрні, сотні людзей завіхаліся на палях. Сёння вёска бязлюдная, ёсць пустыя дамы.




Магіла Іаанны Лампрэхт, якая захавалася да сёння на старых могілках у Вязыні.

На месцы былой панскай маёмасці стаяць будынкі дзяржустаноў. Забытая гісторыя гэтага месца. Забытыя людзі, якія стварылі гісторыю Вязыні. І толькі нешматлікія магілы – напамін пра тыя часы.

### Наступнае пакаленне Лампрэхтаў уступіла ў сілу

З пачаткам Першай сусветнай вайны мірнае жыццё разбурылася. Па ваколіцах прайшлі царскія і нямецкія арміі. Хутары былі разрабаваныя, а цэлыя вёскі спаленыя.

Неўзабаве пачалася чарговая вайна, на гэты раз паміж Польшчай і бальшавікамі. Фронт і жорсткія баі ішлі побач з вёскай. Тады млын і мост у Вязыні згарэлі, і бальшавікі дэпартавалі сучасную ферму.

У рэшце рэшт, новая мяжа стала ў 15 кіламетрах на ўсход ад Ільі. Усе маёнткі мясцовых шляхецкіх родаў Гецэвічаў, **Бароўскіх**, Багдановічаў засталіся ў незалежнай Польшчы. Пачалася новая гісторыя і рэканструкцыя з руін. Наступнае пакаленне Лампрэхтаў уступіла ў сілу. І менавіта яны пачалі рэканструкцыю гэтых зямель у незалежнай Польшчы.

**Марэк ЛАМПРЭХТ,**
**Варшава.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**16 КРАСАВІКА**

**1899.** У Бергалішках на Смаргоншчыне нарадзіўся **Асман Ахматовіч**, выдатны польскі хімік, нашчадак княскага гербу Котвіца (Якар). Сын Аляксандра, адваката, міністра юстыцыі Крымскай Рэспублікі. Удзельнік польска-бальшавіцкай вайны. Скончыў універсітэт імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Пасля вайны працаваў ва ўніверсітэтах Польшчы, быў рэктарам політэхнічнага ўніверсітэта ў Лодзі. Сапраўдны член Акадэміі навук Польшчы. Пахаваны ў Варшаве.



**17 КРАСАВІКА**

**1919.** Польска-бальшавіцкая вайна. Палякі занялі Ліду.

**18 КРАСАВІКА**

**1814.** Нарадзіўся **Яўстафій Тышкевіч**, беларускі археолаг, гісторык і краязнаўца. Заснаваў Віленскую археалагічную камісію і Віленскі музей старажытнасцяў. Супрацоўнічаў разам з братам Канстанцінам Тышкевічам.

**19 КРАСАВІКА**

**1881.** Нарадзіўся **Усевалад Ігнатоўскі**, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык. Першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук.

**20 КРАСАВІКА**

**1957.** У Маладзечне нарадзілася **Людка Сільнова**, беларуская паэтэса. У 1979 скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала на Маладзечанскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, БДУ, ва ўстановах адукацыі Уздзенскага раёна і Мінска. Ад 1986 года ў Нацыянальнай бібліятэцы.

**21 КРАСАВІКА**

**1920.** У Варшаве падпісаны палітычны дагавор паміж урадам Польшчы і **Сямёнам Пятлюрам**. У ім прызнавалася права Украіны на незалежнасць.

**22 КРАСАВІКА**

**1919.** Адозва **Юзафа Пілсудскага** да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага. Ідэя федэрацыі з Літвой, прыязна сустрэтая ў Польшчы, адмоўна – у Літве. Праваў федэрацыйных планаў.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Вучаніца СШ №3 стала першай на рэспубліканскай алімпіядзе па фізкультуры

## А гэта значыць, ва ўніверсітэт – без экзаменаў

ВІЛЕЙКА

**На заключным этапе прадметнай алімпіяды па фізічнай культуры, што праходзіла ў Віцебску, вучаніца 11 класа вілейскай СШ №3 Яна Уладыка заняла першае месца. А гэта значыць, што дзяўчына без ЦТ зможа паступіць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт фізічнай культуры. Па сутнасці, яна – ужо студэнтка.**



Яна па характары – вельмі спакойная, Таццяна Леанідаўна – эмацыйная. Але гэта не перашкодзіла ім заняць першае месца на рэспубліканскай алімпіядзе па фізкультуры.

Пра тое, як з хваравітай дзяўчынкі-пяцікласніцы Яна стала пераможцай рэспубліканскай алімпіяды па фізічнай культуры, мы пагутарылі з ёй самой і яе настаўніцай **Таццянай Леанідаўнай Жук**, якая рыхтавала дзяўчыну да алімпіяды.

### Настаўніца: Хвалявалася, што Яне часам не хапае спартыўнай злосці

– Што я адчуваю як настаўнік? З аднаго боку – радасць, бо дасягнула значнага поспеху ў сваёй прафесіі. З іншага – усведамленне таго, што такія вучні, як Яна, рэдка сустракаюцца, і шкадаванне перад хуткім развітаннем, – дзеліцца Таццяна Леанідаўна сваімі адчуваннямі ад поспеху. – Канешне, я марыла пра такую сур'ёзную перамогу сваёй вучаніцы. І дзякуючы таму, што мы сустрэліся з Янай, мая мара здзейснілася.

Настаўніца прызнаецца: здольную дзяўчынку заўважыла не адразу. У пятым класе Яна часта хварэла і амаль не хадзіла на ўрокі фізкультуры.

– У восьмым класе трэба было бегчы крос. Яна паказала сярэдні вынік. Але я ўсё ж параіла ёй пайсці ў ДЮСШ да трэнера па лёгкай атлетыцы **Алега Губіча**. Пачала хадзіць, вынікі сталі паляпшацца, з'явіліся перамогі на абласных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы. А яшчэ Яна стала капітанам школьнай валейбольнай каманды дзяўчынак.

Таццяна Леанідаўна адзначае, алімпіяда – гэта камандная праца і вучня, і настаўніка, і бацькоў, і трэнера. Адных фізічных дадзеных тут недастаткова, патрэбныя і інтэлектуальныя здольнасці, бо ў алімпіядзе ёсць тэарэтычны конкурс. І не менш важная псіхалагічная падрыхтоўка:

> **– Гэта якраз тое, чаго так не хапае нашым дзецям на алімпіядах. Фізічна гатовыя, тэорыю ведаюць, а справіцца са сваім хваляваннем, калі гучыць свісток і на цябе глядзяць 20 суддзяў, не могуць.**

Рыхтаваліся да рэспубліканскай алімпіяды вучаніца з настаўніцай амаль два гады. І асабліва актыўна – у гэтым навучальным годзе:

– У нас быў распісаны кожны дзень, нават субота і нядзеля, і канікулы, – прыгадвае настаўніца. У панядзелак – агульная фізічная падрыхтоўка, у аўторак пасля ўрокаў ішлі на плаванне. Пасля – спартыўныя гульні, тэорыя.

Плаванне было слабым месцам Яны. А дзякуючы трэнеру **Яўгеніі Асмалоўскай** з выніку ў 58 секунд вольным стылем на 50 метраў Яна выйшла на 38,5.

І ўсё ж быў момант, які хваляваў настаўніцу нават больш, чым плаванне:

– Разумееце, у Яны не было спартыўнай злосці. Яна вельмі спакойная. А ў спорце такі спакой не заўсёды добры. Я бачыла, калі яна выходзіла спакойнай і не зусім упэўненай у перамозе, то ўпэўненым саапернікам прайгравала яшчэ на старце, гублялася. Трэба было, каб яна паверыла ў сябе. І дзякуючы нашай сумеснай працы са школьным псіхолагам гэта атрымалася.

Настаўніца прызнаецца, у глыбіні душы была ўпэўнена, што Яна атрымае дыплом, неабавязкова першай ступені. Калі ў апошні дзень пасля спядання Таццяна Леанідаўна з Янай падышлі да пратакола і ўбачылі першае месца, пачалі плакаць ад радасці і абдымацца.

Калі ж пераможцы з'явіліся ў роднай школе, дырэктар **Мікалай Гіро** запрасіў іх у настаўніцкую і пры ўсіх педагогах павіншаваў. Так кранальна, амаль да слёз, прыгадвае настаўніца.

– Ёсць такая фраза, якую я лічу сваім дэвізам: «Кожны дзень здзіўляй свайго вучня, і настане дзень, калі вучань здзівіць цябе». Для мяне такі дзень настаў, – падсумавала Таццяна Леанідаўна.

### Вучаніца: Нават падумаць не магла, што праяўлю сябе ў фізкультуры

Адзінаццацікласніца Яна Уладыка выдатна вучыцца, захапляецца ўсім патроху: можа маляваць, вышываць, рабіць аплікацыі. Праўда, прызнаецца, што ў апошнія гады яе асноўным захапленнем стаў спорт.

– У пачатковай школе з фізкультурай я не сябравала зусім. Нават не магла падумаць, што пачну тут нечым праяўляць сябе. Цікавасць з'явілася ў восьмым класе на кросе. Па парадзе настаўніцы з сяброўкамі пайшлі на лёгкую атлетыку. Мне спадабаліся і заняткі, і трэнер, – расказвае Яна.

Кажа, з-за спорту ні ў чым сабе не адмаўляе. На дыетах не сядзіць, стараецца добра харчавацца. Калі трэніруюся больш, то і ем больш, каб былі сілы для заняткаў, – кажа дзяўчына. На сустрэчы з сябрамі знаходзіць час у выхадныя. А ў будныя дні – трэніроўкі і дамашнія заданні.

– Калі даведалася пра перамогу на алімпіядзе, канешне, была рада, што атрымалася паказаць лепшыя свае вынікі. Таму адразу патэлефанавала трэнеру па лёгкай атлетыцы, тады я яшчэ не была дакладна ўпэўненая ў выніку. Прадбачыла другое месца. А вось бацькам патэлефанавала толькі тады, калі была цалкам упэўненая ў перамозе і мела на руках дакумент – зводны пратакол.

Бацькі заўсёды падтрымліваюць захапленні дачкі, ад спорту ў вучобу не гоняць. Радуюцца яе перамогам у спаборніцтвах, мацьвуюць. Бацькі, дарэчы, таксама займаліся спортам, але не прафесійна. Гулялі за школьныя каманды ў валейбол, захапляліся лёгкай атлетыкай. Таму ў сям'і спорт любяць.

– Канешне, ёсць пачуццё заспакаення ад таго, што я ўжо амаль студэнтка ўніверсітэта фізічнай культуры. Гэта вельмі прыемная ўзнагарода за ўсю маю працу.

> **І ўсё ж вучобу не закідаю: стараюся, раблю дамашнія заданні. У мяне ж яшчэ школьныя экзамены наперадзе, – падзялілася дзяўчына.**

### У чым спаборнічалі ўдзельнікі алімпіяды

– Тэарэтычны тур – адказы на 50 пытанняў за тры гадзіны;
– плаванне;
– спартыўныя гульні;
– агульная фізічная падрыхтоўка – чаўночны бег, скачкі ў даўжыню з месца, нахіл тулава ўперад і падыманне тулава.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Памёр паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч

ВІЛЕЙКА

**10 красавіка памёр ураджэнец Ільяншчыны, паэт, перакладчык, выкладчык нямецкай мовы Уладзімір Папковіч. Пра паэта, сябра і земляка згадвае наш пазаштатны аўтар Алесь Раткевіч.**


Фота «Нашай Нівы».

Уладзімір Папковіч.

Мая Вілейшчына багатая на таленавітых людзей – дзяржаўных дзеячаў, навукоўцаў, літаратараў. Сярод іх і мой зямляк – паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч.

### Дварэцкае дзяцінства

Уладзімір Антонавіч нарадзіўся 25 сакавіка 1935 года ў вёсцы Дварэц Хаценчыцкай гміны Вілейскага павета Віленскай губерні ў сялянскай сям'і. Бацька яго за польскім часам і па прыходзе ў 1939 савецкай улады працаваў на сваёй зямлі і служыў у пажарнай камандзе пры Хаценчыцкай гміне.

Пасля было трохгадовае жыццё пад нямецкай акупацыяй. Сям'я дапамагала партызанам. У іх хаце пастаянна кватаравалі партызанскія камандзіры. Пасля вызвалення ў 1944 годзе старэйшую сястру, Ніну, мабілізавалі ў Чырвоную Армію і накіравалі ў зенітны полк. А бацьку ў гэтым жа годзе па даносе арыштавала НКВД. Пасля прысуду тройкі, без зімовай вопраткі, з Вілейскай турмы накіравалі ў ГУЛАГ. Толькі да месца прызначэння яго так і не давезлі, акалеў па дарозе. Пасля быў рэабілітаваны.

### А кемлівы хлопец імкнуўся да вучобы

Асірацелае пасляваеннае жыццё было няпростае. Але маці здолела адправіць сына ў Мардасоўскую пачатковую школу. А пасля яе – па сярэднюю адукацыю ў Ільянскую. Кемлівы хлопец, які яшчэ падчас вайны складаў вершы і чытаў іх партызанам, на гэтым не спыніўся. Адразу пасля школы паступіў у Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў і паспяхова яго скончыў у 1958 годзе. І адразу ў гэтым жа інстытуце Уладзімір Антонавіч атрымаў пасаду выкладчыка нямецкай мовы.

У 1962 годзе перайшоў працаваць інжынерам-перакладчыкам патэнтнага бюро Інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды пры Савеце Міністраў БССР (1962-1963). Пасля – старшым выкладчыкам кафедры замежных моў Мінскага вышэйшага інжынерна-радыётэхнічнага вучылішча (1963-1964), інжынерам-перакладчыкам аддзела тэхнічнай інфармацыі Мінскага оптыка-механічнага завода. У 1966-1970 гадах настаўнічаў у школе №20 у Віцебску, выкладаў у Віцебскім педінстытуце. Зноў працаваў інжынерам-перакладчыкам і выкладчыкам. Ад 1973 выкладаў нямецкую і англійскую мовы ў Віцебскім індустрыяльным тэхнікуме, ад 1982 – старшы выкладчык Віцебскага педінстытута (цяпер – Дзяржаўны ўніверсітэт імя Машэрава). Ад 1998 да 2005 года загадваў кафедрай нямецкай мовы гэтага ўніверсітэта. Ад 2016 – пенсіянер. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў ад 1981 года.

### Творчы шлях

Уладзімір Папковіч – лаўрэат прэміі «Сузор'е муз» імя Уладзіміра Караткевіча. У друку выступае ад 1962 года з вершамі і апавяданнямі. Сярод амаль двух дзясяткаў зборнікаў яго вершаў – кнігі «На досвітку», «Зерне», «Самы кароткі цень», «На тым стаю», «Вы будзеце смяяцца» (пад псеўданімам Ахрэм Нядбайла), «Рэшта», «Пасля свята», «Як ёсць...», «На шлях лёсу», «Зазімак» і іншыя.

Пісьменнік шмат перакладаў з нямецкай на беларускую і рускую мовы творы вядомых нямецкіх творцаў – вершы Бехера, раман Крафта «Востраў без маяка», «Вільгельм Тэль» Шылера, «Тры таварышы» Рэмарка, «Карлік нос» Гаўфа і іншыя.

З рускай і беларускай моў на нямецкую Уладзімір Папковіч пераклаў кнігу паэта і сябра Давіда Сімановіча «Віцебск. Шагал. Любоў», «Тарас на Парнасе» Кастуся Вераніцына, іншых аўтараў.

### Апошнія зборнікі пісаў невідушчым

Два гады таму творчасць Уладзіміра Антонавіча пачала прытухаць. Прычынай гэтаму паслужыла хвароба вачэй, якая напаткала паэта. Але ён, цалкам страціўшы зрок, знайшоў у сабе мужнасць і не пакінуў паэзію. Падтрымка сяброў і, у першую чаргу, жонкі **Ларысы Фёдараўны** натхняла і давала надзею на здзяйсненне мары.

*Размовы з сябрамі*
*мне стрэсы здымаюць,*
*Што доўга нудзелі*
*ў душы,*
*Зычлівыя словы*
*настрой уздымаюць,*
*Натхняюць бадзёрыя:*
*«Вершы пішы!»*
*Сябрам сваім шчыра*
*душу адчыняю,*
*Я з імі размову вяду.*
*І, мне здаецца,*
*што я ачуняю,*
*Упарта наперад пайду.*
*Ды надыходзіць зноў*
*час вечаровы,*
*І смутак зноў*
*поўніць душу,*
*Я сам з сабою вяду*
*зноў размову,*
*Сабе абяцаю,*
*«Я шмат напішу!»*

І пісаў упарта і з натхненнем. За два апошнія гады Уладзімір Антонавіч здолеў напісаць амаль сотню вершаў. Шэраг з іх прысвяціў сваёй матулі, роднаму краю, сваім шматлікім сябрам, у тым ліку і аўтару гэтых радкоў.

Летась выйшаў зборнік вершаў Уладзіміра Папковіча «Пытанні застаюцца». А сёлета, якраз да свайго дня нараджэння, паэт выдаў кнігу «Шлях з адзіноцтва» – пераклады з нямецкай на беларускую мову вершаў вядомых нямецкіх паэтаў.

Мне будзе вельмі не хапаць сябра, паэта, цудоўнага чалавека.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**



Фота забяспечана аўтарам.

Апошняя кніга Уладзіміра Папковіча.

**Ад рэдакцыі.** Уладзімір Папковіч супрацоўнічаў з нашай газетай – быў аўтарам і героем матэрыялаў. На старонках «Рэгіянальнай газеты» друкаваліся ўспаміны Уладзіміра Антонавіча пра паездкі ў Германію, артыкулы пра яго літаратурныя справы і поспехі.

Калектыў «Рэгіянальнай газеты» смуткуе з прычыны смерці паэта, перакладчыка, земляка Уладзіміра Антонавіча Папковіча і выказвае спачуванні яго родным і сябрам.

# Як COVID-19 увёў у кому

**Звесткі аб дзейнасці турыстычных арганізацый Беларусі за 2020 год нядаўна апублікаваў Белстат. Калі сцісла – усё дрэнна. Што падкасіла беларускі турызм, чым ён жыве цяпер і якім бачыць сваю бліжэйшую будучыню?**

### Белстат: турыстаў і выручкі – менш у разы

Тое, што 2020 год па выніку акажацца складаным для сферы турызму, было зразумела яшчэ ў пачатку першай хвалі каронавіруса, якая цалкам паралізавала турыстычную галіну. Але наколькі ўсё будзе дрэнна, на той момант не браліся прагназаваць нават спецыялісты, якія прапрацавалі ў гэтай сферы не адзін дзясятак гадоў.

Не так даўно Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў справаздачу аб дзейнасці турыстычных арганізацый за 2020 год.

**З яго вынікае, што ўсяго за адзін год турызм у нашай краіне па многіх паказчыках адкаціўся, як мінімум, на дзесяць гадоў назад!**

Возьмем, да прыкладу, уязны турызм. У 2020 годзе нашу краіну наведала каля 81 тысячы замежных турыстаў: у пяць разоў менш, чым у 2019-м. Для параўнання: у 2005 годзе, па дадзеных таго ж Белстата, у Беларусь заехала больш за 90 тысяч чалавек, у 2011-м – больш за 116 тысяч.

Радзей выязджалі ў 2020 годзе за мяжу і беларусы: у чатыры разы ў параўнанні з 2019-м і ўдвая радзей у параўнанні з 2005-м.

Істотнае скарачэнне турыстычных патокаў адбілася на фінансавых паказчыках арганізацый. Чысты прыбытак ад аказання турыстычных паслуг за год паменшыўся каласальна: прыкладна ў 60 разоў у рублях і прыкладна ў 70 разоў – у доларах ЗША!

Не дзіўна, што выжыць у такіх складаных умовах змаглі далёка не ўсе: прыкладна кожная восьмая турфірма ў Беларусі ў 2020 годзе спыніла сваё існаванне.

### «Шмат каго з работнікаў скарацілі, у тым ліку і мяне»

Колькі ўсяго беларусаў, занятых у сферы турызму, пазбавілася працы ў 2020 годзе з-за крызісу, выкліканага пандэміяй каронавіруса, дакладна сказаць складана. Але, калі верыць афіцыйным звесткам, спісачная колькасць работнікаў арганізацый, якія ажыццяўляюць турыстычную дзейнасць, за год скарацілася прыкладна ў 1,5 раза.

У рэальнасці ж работнікі сферы турызму кажуць пра куды больш сур'ёзныя скарачэнні кадраў. Па словах жыхаркі Баранавічаў Наталлі (імя зменена па просьбе гераіні), у турагенцтве, дзе яна працавала, звольнілі палову супрацоўнікаў. Яе – у тым ліку.

– У сярэдзіне сакавіка нас усіх адправілі на каранцін. Казалі, ён будзе доўжыцца дзён дзесяць. Але ў выніку каранцін зацягнуўся на некалькі месяцаў. Спачатку нам плацілі нармальны аклад, потым усё менш і менш. Пад канец я ўжо атрымлівала нейкія капейкі, рублёў сто, так як кампанія грошай амаль не зарабляла, – успамінае жанчына.

Нейкі час кіраўніцтва турфірмы абнадзейвала супрацоўнікаў, а потым Наталлі і чатыром яе калегам, якія прыйшлі працаваць у агенцтва пазней за ўсіх, проста сказалі шукаць новую працу.

– Многіх працаўнікоў скарацілі, у тым ліку і мяне. Знайсці новую працу было складана. Патрабаваліся ў асноўным дальнабойнікі, прадаўцы, што ўвогуле не маё. Многія вакансіі былі проста для галачкі: тэлефануеш па аб'яве, а табе кажуць, што ніхто не патрабуецца. Пытанне, для чаго давалі аб'яву тады? Стварыць бачнасць, што праца ёсць? – разважае Наталля.

Працаўладкавацца жанчыне ўдалося толькі ў верасні: яна педагог, знайшла працу па спецыяльнасці. Наталля кажа, што сама не ўяўляе, як яе сям'я перажыла гэты перыяд, і цяпер доўга не захоча працаваць у турызме.

– Муж працаваў, бацькі трошкі дапамагалі, я таксама не сядзела склаўшы рукі і нешта шукала. Не ведаю, як мы выбраліся з усяго гэтага, але сітуацыя была жудасная, – кажа яна. – Мне падабалася гэта сфера, але сказаць, што шкадую пра тое, што сышла з яе, не магу. Я зразумела, што праца гэта непастаянная: межы то адкрытыя, то закрытыя, работы то шмат, то ўвогуле няма. Арэлі такія. Таму вяртацца ў турызм больш, напэўна, не стала б.




Інфаграфіка «Intex-press», Баранавічы, па інфармацыі Белстат.

### «Турагенты адчувалі сябе кінутымі дзецьмі»

Тыя ж, хто яшчэ застаўся працаваць у сферы турызму, кажуць, што такога крызісу галіна не перажывала яшчэ ніколі.

– Нават калі былі праблемы з валютай і мы дапамагалі кліентам яе шукаць і мяняць, людзі ўсё роўна ехалі адпачываць, таму што ў іх было жаданне, былі магчымасці, былі грошы. Але такога, каб узяць і год практычна выкінуць з жыцця, не бачылі нават тыя, хто прапрацаваў у турызме па 30 гадоў, – кажа **Ганна Нікіціна**, дырэктар турыстычнага агенцтва.

Мала таго, што з-за зачыненых межаў, каранціну і зменлівай сітуацыі турагенты засталіся практычна без працы і сродкаў для існавання, дык яшчэ і ніякай падтрымкі ад дзяржавы не атрымалі. Хоць спадзяваліся на яе.

– Пытанняў было шмат: як вярнуць грошы турыстам, як выжыць і не зачыніцца. А адказаў на іх практычна не было, – адзначае **Ірына Сварцэвіч**, менеджар турыстычнага агенцтва. – Турагенты адчувалі сябе кінутымі дзецьмі ў чаканні падтрымкі дзяржавы, якой не было ад слова зусім: ні адтэрміноўкі па падатках, ні дапамогі ў вырашэнні важных пытанняў.

Турагенцтвы, якія прадавалі туры з авіяпералётамі, маглі хоць неяк працаваць: улетку мінулага года беларусы, няхай і не так масава, але лятаці адпачываць у краіны, якія ў сезон адкрыліся для турыстаў. Тым жа, хто спецыялізаваўся на аўтобусных турах, давялося зусім не салодка.

– У мяне пераважна аўтобусныя туры: Беларусь, Расія, Украіна. Таму па турызме ўвесь гэты год амаль не працавала, даводзілася падпрацоўваць у іншай сферы, каб неяк выжыць. Цяпер спрабуем нешта аднавіць, крыху па Беларусі пачынаем працаваць і вельмі чакаем адкрыцця межаў з Расіяй і Украінай, – расказвае Ганна Нікіціна.

### Сезон-2021: з надзеяй, але без прагнозаў

Прагнозы на сёлетні сезон супрацоўнікі турагенцтваў робяць з вялікай асцярогай, так як досвед 2020 года паказаў, што сітуацыя можа змяніцца ў любы момант і ад турагенцтваў у гэтым плане мала што залежыць.

– У канцы красавіка ў Мінску будзе турыстычная выстава. Нас таксама запрашаюць, а з чым выстаўляцца? Ніхто нічога не разумее: што выстаўляць, што прадаваць, ніякай канкрэтыкі, – кажа Ганна Нікіціна.

Што яны могуць сцвярджаць з упэўненасцю, дык гэта тое, што беларусы стаміліся ад пандэміі, нестабільнай палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне і хочуць адпачываць ад гэтага, пажадана далей ад Беларусі.

– Людзі стаміліся за мінулы год, і мы спадзяёмся, што ў гэтым паедуць адпачываць. Цяпер пачалі нядрэнна прадаваць Егіпет і Турцыю, але браніруюць у асноўным на бліжэйшы час. На лета яшчэ баяцца, – адзначае Ірына Сварцэвіч.

Таму цяпер турагенцтвы спадзяюцца на лепшае, але рыхтуюцца да ўсяго:

– На дадзеным этапе ўсё нядрэнна, ідзе актыўнае ранняе браніраванне, таму мы спадзяёмся на добрыя продажы ў гэтым годзе. Але акрамя звычайнай страхоўкі на ўсялякі выпадак пачалі афармляць страхоўку ад нявыезду, каб у выпадку чаго хоць неяк зберагчы фінансы турыстаў.

**Людміла СЦЯЦКО, Intex-press, Баранавічы.**

# беларускі турызм







Інфаграфіка «Intex-press», Баранавічы, па інфармацыі Белстат.

## Турыстычны сезон 2020 года выклікаў шок

**Падзяліцца сваімі ўражаннямі ад мінулагодняга сезона і падзяліцца чаканнямі ад сёлетняга мы запрасілі дырэктара турагенцтва маладзечанку Вольгу Фінскую:**

– Турыстычны сезон 2020 года ў сувязі з пандэміяй аказаўся цалкам правальным ва ўсіх і першае, што мы адчулі – гэта шок! Таму што ніколі не было такога, каб зачыніліся цягам тыдня адразу ўсе напрамкі, і мы не ведалі, як і што будзе далей. Усе, у тым ліку нашы турысты, сышлі ў рэжым чакання. Але бліжэй да лета сітуацыя патроху пачала распагоджвацца, тураператары сталі прапаноўваць пераносіць забраніраваныя туры на наступны год з захаваннем грошай і магчымасцю выбару любой зручнай даты і заменай гатэля ці напрамку наогул. І дзякуючы гэтаму ў нас не было масавага адтоку кліентаў і вяртанняў грошай у поўным аб'ёме. І тут асобны вялікі дзякуй усім кліентам, хто даверыўся і застаўся. Так, попыт на адпачынак за мяжой рэзка ўпаў, людзям проста банальна страшна. Такія новаўвядзенні, як абавязковы ПЦР-тэст, многіх палохаюць. Але на сёння гэта абавязковая ўмова для вылету або выезду ў іншую краіну. Каб мінімізаваць усе рызыкі, прапануем зрабіць страхоўку ад нявылету, якая пакрывае выдаткі ў выпадку станоўчага выніку ПЦР-тэста. Гэта тое, што тычыцца адпачынку за мяжой. Але мы працуем і па Беларусі. Гэта вымушаная працяглая паўза дала нам каласальны штуршок, каб нашы экскурсійныя туры па Беларусі ў гэтым сезоне прагучалі ў новым фармаце. Мы робім стаўку на адпачынак у нашай краіне. Мы ўсе вельмі чакаем перамен да лепшага, турызм паўстане ў поўнай меры, але для гэтага спатрэбіцца час.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**



# «Клас і ўзровень камандаў несупаставімыя». «Смаргонь» займае апошняе месца ў вышэйшай лізе

**«Смаргонь» правяла ўжо чатыры гульні ў вышэйшай лізе Беларусі. У мінулым сезоне смаргонцы занялі шостае месца ў першай лізе, па спартыўным прынцыпе яны не маглі ўдзельнічаць да выступлення ў дывізіёне вышэй рангам. «Рэгіянальная газета» расказвае, як смаргонскія футбалісты праводзяць цяперашні сезон.**



Смаргонскія футбалісты пакуль не забілі ніводнага гола ў вышэйшай лізе.

### Як выступае «Смаргонь»

Пасля чатырох тураў у «Смаргоні» няма перамог: тры паражэнні і адна нічыя. У першым туры смаргонцы саступілі «Энергетыку-БДУ» з лікам **0:3**. У другім туры прылецела паражэнне ад «Іслачы», калі **Дзмітры Камароўскі** забіў дубль у вароты «Смаргоні».

У трэцім туры смаргонцы згулялі ўнічыю з Мазыром – **1:1**. У гэтым матчы смаргонскія футбалісты не адзначаліся мячамі. Пад канец сустрэчы футбаліст мазырскай «Славіі» **Міхаіл Бараноўскі** забіў неахайны мяч у свае вароты, тым самым падараваў смаргонцам першую нічыю ў сезоне.

У чацвёртым туры, 11 красавіка, «Смаргонь» сустрэлася з уладальнікам Кубка Беларусі-2021 салігорскім «Шахцёрам». Смаргонцы зноў не забілі ніводнага мяча, а супернік зрабіў 3:0 (**Ягор Філіпенка**, **Мікола Анціч**, **Ігар Івановіч**).

Пасля апошняга матча з «Шахцёрам» трэнер «Смаргоні» **Вячаслаў Герашчанка** крытычна пракаментаваў гульню сваіх падапечных.

> **– Будзем аб'ектыўныя: клас і ўзровень камандаў несупаставімыя. Тым не менш лічу, што першы тайм мы правялі даволі някепска, арганізавана, добра абараняліся, мелі некалькі выхадаў у контратаку.**

Не забілі з пенальці, што, канешне ж, з такімі сапернікамі, як «Шахцёр», недазваляльная раскоша. Другі тайм не скажу, што правалілі, але трошкі стаміліся. Адбітак наклаўся, што мы засталіся ўдзесяцёх супраць магутнай і індывідуальна моцнай каманды, як «Шахцёр».

Герашчанка адзначыў, што камандзе складана гуляць у роўных складах з іншымі калектывамі вышэйшай лігі, а ў няроўных – яшчэ больш. Смаргонскі трэнер адзначыў, што ў футбалістаў «Шахцёра» высокае выканальніцкае майстэрства.

Цяпер «Смаргонь» займае апошняе месца ў турнірнай табліцы сярод 16 камандаў вышэйшай лігі. Смаргонская каманда лідзіруе па колькасці мячоў (9 галоў), якія прапусцілі падчас гульняў.

### Фінансаванне на ўзроўні мінулага сезона

Дырэктар «Смаргоні» **Павел Люцько** расказаў, як каманда трапіла ў вышэйшую лігу па футболе і што адбываецца ў клубе з фінансаваннем. Па словах Люцько, каманда не чакала, што Беларуская федэрацыя футбола дасць магчымасць клубу згуляць у цяперашнім сезоне ў мацнейшым дывізіёне краіны.

> **– Для нас гэта быў своеасаблівы выклік, які мы прынялі.**

Бо прафесійны спорт – гэта заўсёды матывацыя і рух наперад, а таптацца на месцы проста нецікава, трэба заўсёды імкнуцца да далейшага ўдасканалення і развіцця.

Люцько адзначыў, што бюджэт на каманду застаўся амаль у тых жа межах, што і ў мінулым годзе, калі каманда гуляла ў першай лізе.

Наступны матч «Смаргонь» правядзе з брэсцкім «Рухам» 18 красавіка ў 16:00.

**Настасся УТКІНА.**

## Другая ліга па футболе стартуе 1 мая

**Стаў вядомы фармат правядзення чэмпіянату Беларусі сярод камандаў другой лігі. ФК «Маладзечна» згуляе ў турніры ўжо праз некалькі тыдняў.**

У рэгламенце правядзення другой лігі прадугледжана стварэнне на першым этапе шасці зон у адпаведнасці з абласным дзяленнем. Далей – сістэма плэй-оф.

У першым этапе маладзечанцы сустрэнуцца толькі з камандамі, якія будуць прадстаўляць Мінскую вобласць і Мінск. Па дзве лепшыя каманды з Гомельскай, Магілёўскай, Гродзенскай, Віцебскай абласцей, тры пераможцы з Брэсцкай і адразу пяць лепшых з Мінскай вобласці складуць 16 калектываў для другога этапу.

Другі этап разыграюць па кубкавай сістэме. Жэрабя зробіць з 16 камандаў 8 пар 1/8 фіналу. Матчы пройдуць на дамашнім полі і на выездзе. Далей адбудуцца чвэрцьфінал, паўфінал і галоўны матч турніру за залатыя медалі.

> **У першую лігу выйдуць чатыры лепшыя каманды другой лігі.**

Маладзечанская каманда працягвае падрыхтоўку да сезона.

> **17 красавіка ў Астраўцы ФК «Маладзечна» правядзе кантрольную гульню супраць мясцовай каманды, якая таксама згуляе ў другой лізе ў гэтым сезоне.**

**Аддзел інфармацыі.**


Расклад матчаў пакуль невядомы.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Буйная млекакормячая жывёліна атрада парнакапытных стэпавай зоны, від антылопы.
3. Галоўная або вялікая царква ў горадзе, манастыры.
5. Яўгенія Янішчыц: «Згустак шэрага рэчыва – … журбы і надзей. Свет стаміўся ад спрэчак, Ад падзей ці людзей!».
6. Пра нежаданне аддаць, страціць.
8. Змешванне розных він у пэўных суадносінах, каб атрымаць вялікія партыі аднародных він пэўнага тыпу і саставу, палепшыць якасць зыходных він.
9. Кожная з дзвюх сіметрычных, замацаваных на падстаўцы або навешаных на восі частак вагаў у выглядзе талерак, на адной з якіх кладзецца груз для ўзважвання, на другой – гіры.
11. Адна з дзвюх ніжніх канечнасцей чалавека.
13. Які страціў разважлівасць, цвярозы розум.
15. Група суднаў, якія ідуць адно за другім або выконваюць агульную задачу.
16. Пышнае дарагое адзенне.
17. Дах на слупах ці іншых апорах, які ахоўвае ад сонца, непагоды.
18. Рухомы мышачны орган у ротавай поласці пазваночных жывёл і чалавека, які дапамагае захопліваць, паражоўваць, глытаць ежу, вызначаць яе смакавыя якасці.
21. Узвышэнне, зробленае шляхам насыпкі зямлі, грунту.
23. Невялічкая акруглая часцінка якой-небудзь вадкасці.
24. Агульная назва лёгкіх пасажырскіх павозак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Прычына, выпадак.
4. Той, хто гатуе стравы; повар.
7. Цяжэйшы за паветра лятальны апарат з рухавіком і, звычайна, нерухомымі крыламі.
8. Разрэзаныя папалам і высушаныя без костачак абрыкосы.
10. Жаданне есці.
12. Атрад млекакормячых, якія маюць прадаўгаватае, пакрытае рагавой луской цела, невялікую галаву, доўгі хвост і кароткія лапы з моцнымі кіпцюрамі.
13. У матэматыцы – геаметрычнае цела, якое ўтворанае вярчэннем круга вакол свайго дыяметра.
14. Вечназялёны куст, радзей дрэва, расліна сямейства кіпарысавых з ягадападобнымі чорна-сінімі пладамі.
19. Парадная гасцiная або зала для прыёму гасцей у арыстакратычным доме.
20. Характэрны для першабытнаабшчыннага ладу звычай, які забараняў шлюб паміж мужчынамі і жанчынамі аднаго і таго ж роду, племя.
22. Кантрольна-вымяральны прыбор для вызначэння дозы радыеактыўнага выпраменьвання.
24. Спецыяліст для правядзення экспертызы па якім-небудзь спрэчным ці няясным пытанні.
25. Распарадчы або дарадчы калегіяльны орган пры якой-небудзь установе, арганізацыі, таварыстве.

## Адказы на крыжаванку з №15

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Гадзіннік. 2. Гадзіцца. 4. Дзівак. 6. Асілак. 7. Гіпотэза. 8. Дадатны. 9. Пыса. 10. Няма. 12. Пучок. 15. Ялта. 17. Дажыць. 18. Неба. 19. Аўтамат. 21. Лягас.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Гуаш. 3. Пункцір. 4. Дзеці. 5. Ахапак. 7. Гідрат. 8. Дзень. 10. Насадка. 11. Рука. 13. Пяро. 14. Пятля. 16. Негатыў. 18. Няцотны. 19. Архіў. 20. Заменгоф.

## ● ГАРАСКОП НА 16-22 КРАСАВІКА


**АВЕН.** Каб распаліць былую жарсць у любоўных адносінах, прыйдзецца паспрабаваць нешта новае. Усё ў вашых руках, памятайце пра гэта! У адносінах з калегамі будзьце мудрыя. Не адказвайце злом на зло.


**ЦЯЛЕЦ.** Любыя сваркі непажаданыя. Наадварот, старайцеся па-добраму ставіцца да ўсіх. Здзелкі, заключаныя ў гэты перыяд, апынуцца нявыгаднымі. А вось навучанне пойдзе толькі на карысць.


**БЛІЗНЯТЫ.** Лепшае, што вы можаце зрабіць, – трымацца здаровага ладу жыцця. У выхадныя дні не сядзіце дома, адпраўляйцеся на свежае паветра. Магчымыя матэрыяльныя паступленні, якіх вы не чакалі.


**РАК.** Некаторых Ракаў можа чакаць падарожжа. На працы цяпер лепш не трапляцца пад гарачую руку начальства. У сям'і магчымыя бытавыя сваркі. Звядзіце іх на нішто па ўласнай ініцыятыве.


**ЛЕЎ.** Вам можа паступіць прывабная, але вельмі рызыкоўная прапанова. Прымайце яе, толькі калі будзеце цалкам упэўненыя ў станоўчым выніку. У дадзены перыяд пажадана працаваць па максімуме, каб дазволіць сабе адпачынак потым.


**ДЗЕВА.** Не высвятляйце адносін з каханым. Лепшае, што цяпер трэба зрабіць, гэта проста адпачыць адзін ад аднаго. Пажадана не рабіць буйных пакупак. Зоркі раяць не сядзець дома і прымаць усе запрашэнні, якія будуць паступаць.


**ШАЛІ.** Які б выбар ні стаяў перад вамі, вы ўсё зробіце правільна. Не сумнявайцеся ў сваіх сілах! Цяпер можна кардынальна мяняць лёс. Таксама сачыце за знакамі, бо Сусвет будзе шчодра раздаваць іх і дапамагаць сваімі парадамі.


**СКАРПІЁН.** Старыя знаёмыя, пра якіх вы даўно забыліся, зноў дадуць пра сябе ведаць. Ох, як несвоечасова! Перыяд спрыяльны для таго, каб прасоўваць свае ідэі перад начальствам. Удалы час для агарода.


**СТРАЛЕЦ.** Многіх Стральцоў на гэтым тыдні чакаюць развітанні. Калі паставіцеся да іх па-філасофску, хутка ў вашым жыцці адкрыюцца новыя дзверы. Лепш дапамагаць не матэрыяльна, а добрай парадай, напрыклад.


**КАЗЯРОГ.** У гэты час можна планаваць усе важныя справы. Могуць засмуціць бліжэйшыя сваякі: будзьце гатовыя да гэтага. Звярніцеся за падтрымкай да сяброў, другой палавінкі, і вы адчуеце сябе нашмат лепш.


**ВАДАЛЕЙ.** Любыя пераезды і пералёты цяпер не рэкамендуюцца. Лепш перанясіце паездку. Пажадана правесці гэты час дома, лежачы на канапе з цікавай кнігай. Вам патрэбны адпачынак! Фізічная праца можа абярнуцца траўмамі або абвастрэннем старых хвароб.


**РЫБЫ.** Займіцеся сабой – абнавіце гардэроб, напрыклад. Пакупкі прынясуць радасць. Дарэчы, цяпер ідэальны час для набыцця машыны або кватэры. Пры гэтым крэдыт браць непажадана.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 3 | 7 | | | 1 |
| 1 | | | | 2 | | 3 | 6 | |
| | 5 | | 6 | | 8 | | | |
| | | | 2 | | | | | 9 |
| 3 | | | | 5 | 4 | | 8 | |
| | 2 | | | 9 | | | 3 | |
| | 4 | 5 | | | | | 1 | 8 |
| 7 | | | 1 | | | | 4 | |
| 8 | | | | 4 | 6 | 5 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by




## У Маладзечне правялі мітынг у памяць вязняў канцлагераў

**У нядзелю, 11 красавіка, у Маладзечне зладзілі мерапрыемства ў гонар Міжнароднага дня вызвалення вязняў канцлагераў каля мемарыяла Шталаг-342.**



Фота Насці УТКІНАЙ.

У жалобным мітынгу прынялі ўдзел члены клуба «Пошук», а таксама першы кіраўнік клубу Лідзія Князева.

**Міжнародны дзень вызвалення вязняў канцлагераў адзначаецца штогод 11 красавіка.**

11 красавіка 1945 года на тэрыторыі канцэнтрацыйнага лагера Бухенвальд успыхнула ўзброенае паўстанне вязняў супраць нацыстаў, таму менавіта гэты дзень быў прыняты як дата, калі адзначаецца Міжнародны дзень вызвалення вязняў канцлагераў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **29 красавіка – сто год Міколу Ермаловічу, ганароваму грамадзяніну Маладзечна, гісторыку, публіцысту, пісьменніку, які вярнуў беларусам сапраўдную гісторыю. Пра навукоўца і бацьку гутарым з яго дачкой Аленай Ермаловіч.**

## 17 красавіка, субота

**Вецер:** усходні, 4-5 м/с




Паводле rp5.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці назіраеце вы праявы палітычнага крызісу ў Беларусі?

**Тамара:**
– Канешне! Я не надта ўмею гаварыць, але сэрца ў мяне моцна баліць. Вельмі хвалююся, таму што ў нас у краіне шмат адукаваных і разумных людзей, якія добра бачаць будучыню.



**Андрэй:**
– Пакуль не заўважыў. У мяне стабільная праца, плацяць мне няблага. Праўда, працую ў Мінску, у Маладзечне працы няма.



**Алена:**
– Маральна гэта адчуваю, заўсёды яго заўважала.



**Віктар:**
– Не шыбка.



**Лізавета:**
– Магчыма, так.



**Таццяна:**
– Я нейтральна да ўсяго адношуся. Стараюся не лезці ў палітыку, бо лічу, што людзі не разбіраюцца ў палітыцы. Гэта дзесці глыбей.



**Аддзел інфармацыі.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№16 (1355) 16.04.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 630. Падпісана ў друк у 9.00 15.04.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.